ЦАНА 75 ГРАШОЎ.

# РОДНЫЯ ГОНІ

МЕСЯЧНІК ЛІТАРАТУРЫ Й КУЛЬТУРЫ ЗАХОДНЯЕ БЕЛАРУСІ.

1927. ВЕРАСЕНЬ—КАСТРЫЧНІК. 1927.

| | | |
|---|---|---|
| КНІЖКА VI. | АДРЭС РЭДАКЦЫІ: Вільня, Тургельская 22 кв. 3. (Wilno, Turgielska 22 m. 3). | Падпіска на год 8 зал. На 3 месяцы . 2 зал. Адна кніжка . 75 гр. |




УЛАДЫСЛАЎ СЫРАКОМЛЯ
(Людвік Кандратовіч).

## ЛЯЛЬКА*).

(Пераклаў з польскае Гальляш Леўчык).

Хай лялька будзе ціха, ня плача ля печы,
Паклоніцца, папросе, што патрэбна лялі,
А я ёй раскажу тут шмат цікавых рэчы,
Як тата з мамай казалі.

Ў сьвята мне завяжа мама чырвону стужку,
Ўложыць нову адзежу, што ляжыць у скрыні,
Ўжо мяне навучаць пацераў папранцуску —
Дый паедзем да сьвятыні.

Вось там будуць дзівіцца мужычкі вясковы,
Мне-ж маліцца пасвойму нейʻк не выпадае
Голасна—у пацерах лепш загранічны словы,
Я-ж ня мужычка якая!?

*) Панская дзяўчынка забаўляецца лялькай—дый гэтак сабе з ёю гамоне, бы з жывою.

Гэты паэтычны твор аўтар Уладысл. Сыракомля (Людв. Кандратовіч) напісаў яшчэ да прыгону-паншчыны, каля болей-меней 1856 г. і за гэта яго ўзьненавідзелі паны ў тым часе,—за што яму няхай будзе ад нас, Беларусаў, пашана й падзяка, бо ён любіў наш сялянскі беларускі народ. *Г. Л.*

А ціха лепш пасвойму папрашу я Бога:
Каб даў мне хутка вырасьці, дый від харошы,
А для мамы і таты... каб даў многа, многа
Жоўценькіх, беленькіх грошы.

Яны так любяць грошы, так моляцца, просяць,
Абразы цалуючы, надарыць іх доляй,—
Бог за два залатыя, што ў ахвяру носяць,
Чую, аддасьць сто раз болей.

Вось усё шчадрэйша ахвяраў іх памога—
Бог дасьць больш, чым варта набожнасьць іх ня важка,
Дык зьбярэцца нам грошы так многа, так многа...
Што аж зьлічыць будзе цяжка.

Лялька! Ты не усьміхайся... ты не уцяміла—
Што пытаесься: ці прыйдзе сам Бог—ці, магчыма,
Прыйдзе заміж Бога анёлаўская сіла
Дый будзе сплачваць грашыма?

Дзе-ж там!... Як кажа мама, зьвернецца доўг Боскі —
Прыйдзе барадаты жыд грошы плаціці:
Купім мужыкоў больш, чатыры ажно вёскі,
Што будуць нам жаць і касіці.

Ты толькі вось ня знаеш, што мы: ёсьць панове,
А ёсьць яшчэ люд іншы: мужыцкім празвалі,
Каторым прыказаў Бог быць: на безгалоўе —
Каб на паноў працавалі.

Люд той п'яны, ў балоце—брыдка выглядае:
Ў дзіравых сярмягах—зваляцца, як дзьмухаць,
А самы вінаваты, іх Бозя карае,
Бо таты ня хочуць слухаць.

Тата конікі любіць, а мама сабачку,
А мужыкоў усе лаюць, хапаючы кія;
Запраўды аж шкода іх—маюць усе гарачку —
Мусіць хамулы благія!?

Вось учора... заснуў мой тата па абедзе—
Пытаюся, ці добра, якая патрэба?
Увaліліся ў пакой з балотам, як мядзьведзі,
З крыкам: „Паночак, дай хлеба!“.

Дык казалі іх сьцёбаць—і добра зрабілі.
Вось калі буду выраслай—і меці шмат жыта,
Ніколі спаць ня лягу, аж бы накармілі
Хлебам усе вёскі дасыта!

Бо як-жа мне заснуць тут, як стануць цягацца
Пакорна ў дзьверы, вокны хамулаў цэлы горбы?
Як хлеба ім ня даць, яшчэ дзяды прысьняцца
Дый забяруць аж у торбы.

А можа навет горай—сам Хрыстос пазнае,
Што ў абразку галодным рыбу й хлеб ламае...
Дык пацеры казаць—аб хлеб, здароўя будзем
Тату, і маме, і людзем!

ЗЬВЯСТУН.

* * *

Я — сын прастораў неабнятных —
Радзімых гонеў, родных ніў,
Дзе ў гуках - чарах непрагадных
Палетак ў сумнасьці застыў.
Я — родны сын сасон - асілкаў,
Што прошласьць[1]) ў казакіх берагуць[2]),
Пільнуюць дзедаўскіх маглкаў
І з небам гутаркі вядуць...
Я — сын чароўных сенажацяў,
Дзе шчасьцям пахне ад красок,
Дзе ў вап'яняючых — абняцьцях[3])
Адпачывае сумны ўзрок.
Я — сын бароў, што родзяць шумы,
Ў задуме шэптаў буйных дрэў
І пасьля ціхай, соннай думы
Мяцежны родзяць вык і рэў.
Я — сын чароўнай сіняй далі,
Скуль выглядае мне вясна
І будзе ў сэрцы сумным жалі,
Прастор абняць заве яна...

в. Сакаўцы 2.VII.27 г.

[1]) пол., паблр.—мінуўшчыню,[2]) рус., паблр.—сьцерагуць, бароняць,
[3]) рус., паблр.—абыймах.

РЭВ. ДЖОН ВІТТ.

# 4 ГАДЫ СЯРОД ТУРКАЎ І ХІНЦОЎ.

Пачынаем друкаваць у „Родных Гонех“ гэтае цікаўнае апавяданьне грам. Рэв. Джона Вітта аб ягоным падарожжу й жыцьцю ў Хінскім Туркестане. Грам. Рэв. Джон Вітт ад якогась часу жыве ў Вільні, працуе сярод Беларусаў і ёсьць прыяцелям Беларускага Народу.

Рэд. „Родных Гонеў“.



*Рэв. Джон Вітт.*

## МАЁ ЖЫЦЬЦЁ ДА 1917 ГОДУ.

Я радзіўся ў 1885 г. ў Наталі ў паўдзённай Афрыцы як сын швэдзкага місыянара сярод Зулусаў, народу чарнаскурай расы. Сямёх год я прыехаў у Швэдзію, дзе скончыў гімназыю. Па двох гадох прак-

тыкі пры вырабленьню машынаў, вучыўся ў нямецкай вышшай школе тэхнічнай; скончыў яе як электро-інжынер. Па колькігодняй рабоце як монтэр, конструктар і патэнт-інжынер у Швайцарыі, Нямеччыне, Амэрыцы й Швэдзіі, прыехаў у 1912 г. ў Рыгу як загадчык электрычнае цэнтралі пры хвабрыцы гумовых вырабаў „Праваднік“, дзе працавала каля пятнанцацёх (15) тысячаў чалавекаў. Па загаду расейскага ўраду гэтае прадпрыемства ў 1915 г. было „эвакуавана“ ў Маскву, гэта значыцца, усе чыста машыны, прылады й матар'ялы былі адпраўлены ў Маскву ў 3000 вагонах. Але з іх да Масквы дайшла невялічкая часьць і дырэкцыя мусіла ўтварыць апрычоны комітэт, каб знайсьці страчаныя вагоны, з каторых адны апынуліся ў Архангельску, другія ў Астрахані, трэція ў Берасьці, чацьвертыя навет у Уладзівастоку! Аб адчыненьню хвабрыкі ў поўным складзе не магло быць гутаркі, і мы ўзяліся ставіць тры меншыя хвабрыкі. У справах свае фірмы я некалькі разоў езьдзіў у Швэдзію й Нямеччыну.

У 1916 г. я пакінуў „Праваднік“ і паступіў да іншае фірмы, каторая мела некалькі хвабрыкаў гумовых вырабаў у Туркестане. Ад пачатку вайны была мая сям'я ў Швайцарыі, але ў Туркестан жонка мая з дзяцьмі прыехала да мяне, і я ізноў абачыў сваю сям'ю на Новы 1917 Год.



Горы Памір; граніца хінска-расейска-індыйска-афганістанская.

## Расейскі або Заходні Туркестан.

Расейскі альбо Заходні Туркестан населены Туркамі - мусульманамі. Туркі туркестанскія свае Туркам асманскім, г. зн. тым, што складаюць турэцкае гаспадарства. Апрача Туркаў жывуць у Заходнім Туркестане Сарты. Гэта народ даволі пасьцівы, з каторым можна мець інтарэсы. Прастор Заходняга Туркестану роўны 600 тыс. кв. кілёмэтраў, г. зн. звыш паўтара разу вялікшы за Беларусь, але лічба насяленьня ў прыраўнаньню з прасторам невялікая—каля 2 з паловай міліёнаў. Жаралом гаспадарскага дабрабыту Туркестану перад вайною быў вываз садовіны (абрыкосы і інш.) й бавоўны. Дзеля бавоўны ў краі ня сеялі збожжа, бо пшонку прывозілі з Украіны і паўдзённых землеў Расеі, за што Туркестан туды вывозіў садовіну й бавоўну. Край гэты вельмі багаты нафтаю, ковамі (мэталямі) й мінэраламі, хоць багацьці гэтыя дагэтуль мала цабываюцца. За апошнія гады культура бавоўны ў Туркестане блізу што спынілася, бо, не дастаючы з Расеі ані збожжа ані мукі, жыхары кінулі бавоўну і пачалі сеяць пшонку, рыж і іншае збожжа.

Год 60 назад расейскі генэрал Каўфман зваяваў Туркестан і прылучыў яго да Расеі. Расейцы ў Туркестане складаюцца з гаспадарсьцьвеных ураднікаў, прыватных прадпрыемцаў ды іх службітоў і гандляроў. Шмат сярод Расейцаў было „ссыльных“, ранейшае жыцьцё каторых ня было без заганы.

Мы працавалі ў м. Андзіжане, дастаўляючы арміі баваўняны алей, і мелі вялікія заказы. Але ў народзе тутака было вялікае нездаваленьне, бо да цэнтральнае ўлады было далёка і паміж ураднікамі было шмат людзёў нясумленных.

За якісь час па ўсёй Расеі прывіталі з гучнай радасьцяй рэволюцыю, каторая ськівула цара. Усе чыста цешыліся й спадзяваліся, што цяпер ужо Расея вызваліцца з няволі. Калі позна ўвечары вестка аб рэволюцыі прыйшла ў Андзіжан, усе кіраўнікі хвабрыкі забраліся ў галоўнага дырэктара і пры шклянцы гарбаты гутарылі аб залатой будучыні.

Але мне ня прышлося доўга цешыцца! Ад туркестанскага клімату нэрвы мае так расьхісталіся, што лекары мне раілі ехаці ў Фінляндыю. Гэтага нельга было зрабіць, бо: 1) дарога была надта дарагая, 2) ехаць з малымі дзеткамі цяпер было немагчыма. Тады мы наважылі на некалькі месяцаў выехаць у горы, у мястэчка Ош.

Перад выездам з Масквы я даведаўся, што ў Хінскім Туркестане ёсьць некалькі швэдзкіх станцыеў місыйных. З Андзіжану я напісаў да місыянараў ліст і папрасіў іх да сябе, калі-б яны думалі вярнуцца ў Эўропу. Ліст мой пайшоў на цэнзуру ў Ленінград, потым назад у Андзіжан і пераз небатычныя горы Цян-Шань у Кашгар у Хінскім Туркестане. Шмат месяцаў пазьней я дастаў ад місыянараў адказ, у каторым яны прасілі мяне даведацца да іх. Сябры мае ня раілі мне рызыкаваць на небясьпечнае падарожжа па высокіх усходных горах і цераз быстрыя горныя рэкі. Але прыйшоў яшчэ другі ліст ад місыянара з Ярканду, другога па вялічыні места Ўсходняга Туркестану, з пытаньням, ці ня ўзяўся-б я памагчы закласьці хвабрыку. Адзін з тамашніх жыхараў, Турак, але грамадзянін хінскі, пачаў выробленьне сярнічкаў, мае ткацкую майстроўню і цяперака хоча ўсё перарабіць на заходні лад.

Гэтак мне неўспадзеўкі прыйшло ўдум зьвярнуцца да расейскага ўраду з просьбай пакінуць Заходні Туркестан і паехаць у Ўсходні. Сям'і я ня мог пакінуць у Андзіжане, адвезьці яе ў Швэдзію ня было магчымасьці... Тады я пастанавіў жонку й дзеці адвезьці да швэдзкіх місыянараў і, калі трэба будзе, самому вярнуцца ў Андзіжан. Дык я пачаў старацца пашпарту на падарожжа. Ізноў прайшлі месяцы, бо просьба мая пайшла ў Ленінград, і ажно ў верасьні 1917 г. адтуль прыйшоў адказ, што мы можам выехаці.

За тры дні мы забралі караван, накраталі*) рэчы, што хацелі ўзяць із сабою, а мэблі і ўсе чыста хатнія рэчы прадалі.

## Падарожжа па горах.

Наш караван складаўся з трынанцацёх падобных да шкілетаў коней і пяцёх аслоў. Лета было чыста сухое, так што на'т у горах ня было дажджу і ня вырасла жаднае травы беднай жывёле. Я з сям'ёй ехаў на конях і на конях быў наш багаж, а на аслох павадыр нашага каравану вёз шмат гарбузоў на продаж.

Жонка мая й дзеці, з каторых старшаму было 7 год, сярэдольшаму 5, а дачцэ $3^1/_2$ гады, ехалі ў так званай „ка-

*) наклалі.

лысцы“: гэта вялікі пляцёны кош, прывязачы да дзьвюх жэрдзеў, што сьпераду й ззаду кладуцца на коні, так што коні йдуць між жэрдзьмі. Я й кухар, што меў быць і пераkладчыкам, ехалі конна, чатыры коні везьлі калыску, шэсьць везьлі кожны па два пакункі 60 кілёграмаў. Трынанцаты конь — запасны ішоў без накрату.

Гэтак мы ехалі два тыдні. Як навіна, сьпярша гэтае падарожжа нам здавалася даволі цікаўным. З намі быў малеўкі сабака, каторы жаласна выў у „калысцы“. На першым „папасе“ у ваднэй вёсцы, дзе мы пілі гарбату, сабачка выскачыў на рынак і заблудзіўся паміж мноствам народу: мы далей паехалі без яго. Бедны сабачка! пэўне здох з голаду.

Каля гадз. 4 мы даехалі месца першага начаваньня. Удаўжкі дарогі тамака было некалькі гліняных хатаў. За начулішча сабе мы выбралі адну гэткую хату, гэта быў трысьцень, бо ў ім былі тры сьцяны й страха, але з аднаго боку гэты будынак быў адкрытым. Сабе мы паставілі некалькі польных ложкаў, а дзеці спалі ў калысцы, каторую мы ахінулі вялікімі хусткамі. Надвор‘е было мяккое і мы пераначавалі нядрэнна. Яду нам варыў кухар із запасаў, што мы ўзялі з сабою. Гэтак падарожжа трывала з дня на дзень. Нараніцы ў 7 гадз., па скромным сьнеданьню, мы выяжджалі ў дарогу, паўднём папасаваліся, а ўвечары ў гадз. 4—7 задзержаваліся на нач у якой прымітыўнай карчме. Мы лучылі на найлепшы час на падарожжа. Рэкі траха высахлі, бо ўвосень, калі сонца ня мае сілы растапіць сьнег на горах, скуль выцякаюць рэкі, вада ў іх меншае.

Найцікаўшым, але адначасна й найцяжшым днём падарожжа была дарога - пераход пераз гару Тэрэк, на вышыні 3.900 мэтраў.

Апошнюю ноч перад гэтым пераходам мы правялі ў Кіргізаў, мусульманскіх гаракоў гэтае мясцовасьці, людзёў вельмі бедных, што нам уступілі адну з сваіх дзьвюх хатаў. Іхнія хаты пастаўлены з жардзя, каторае складаецца, бы краты; краты гэтыя пакрываюцца кілімамі (каберцамі, дыванамі). Багатыя Кіргізы ўжываюць дарагія кілімы з воўны й шоўку, бедныя людзі маюць толькі лямцы (вайлак). Нашыя гаспадары мелі ня шмат каберцаў, але яны нам прынесьлі ўсё чыста, што мелі, а самі лягглі на голай зямлі ў другім будане*). Хоць мы на-

*) шалашы.

крыліся хутрамі й каберцамі, але ў гэтую ноч празяблі, бо на такой вышыні тэмпэратура была ніжэй 0. Нараніцы мы сваім гасьцінным гаспадаром адудзячыліся рыжам, мукой, рызынкамі і іншымі ласонікамі, і гэтым іх болей усьцешылі як грашыма.

Разьвітаўшыся з Кіргізамі, мы падняліся ўгару. Па вельмі ўсхоных, чыста голых скалах, на каторых не расло ані кустка ані сьцябла траўкі, мы цэлымі гадзінамі ўзьбіраліся ўверх, бязупынку, бяз воддышы, а потым спушчаліся ўніз. Калыска цяпер ехала пустая: хлопчыкі мае ехалі за мной і з кухарам на конях, жонка таксама ехала конна, завярцеўшы дачку ў хутра, так што дзяцё было падобнае да кенгуранятка, якое маці трымае ў сваім мяшку. Чатыры гадзіны мы ехалі ўверх, пад канец у мяцеліцу. Апошнюю гадзіну мы ехалі па мясцох, усеяных аднымі касьцьмі конеў і аслоў, што здыхаюць ад цяжкое дарогі. Гэта адзіная дарога ў гэтых горах, адзіны праход з Сярэдняе Азыі на Заход, і гэтай дарогаю цэлыя тысячагодзьдзі няшчысьлёныя плямёны вандравалі на Заход. Дык можна сабе прадставіць, колькі там зьгінула жывёлы й людзёў! Каршуны, каторых мы тамака відзелі нямала, чыста аб'ядаюць мяса з косьцеў. На сьмерць замораныя мы ўвечары даехалі месца начаваньня. За некалькі дзён мы даехалі да расейска-хінскае граніцы. Перад гэтым трэба было пераехаць цераз даволі шырокую й глыбокую раку. Павадыру каравану я загадаў, каб глядзеў тут вылучна калыскі, а на ўсё іншае каб не зварочаваў увагі. Ён вёў пярэдняга каня, каторы вёз калыску. Як калыска была на самай сярэдзіне ракі, павадыр зацеміў, што адзін з ягоных аслоў, каторы вёз мех з прыладамі й гваздамі, ужо траха ля другога берагу ракі пакаўзнуўся й паваліўся. Павадыр як га пакінуў калыску і пабег на помач свайму аслу. На шчасьце, я гэта ў пару зацеміў і пагнаў павадыра назад да яго павіннасьці.

## У Ўсходнім Туркестане.

На граніцы загадчык мытні прапанаваў нам супачыць у ягоным доме; гэта мы з падзякай прынялі, асабліва дзеля дзяцей. Дзень быў надзвычайна харошы, і мы дасканальна супачылі. Потым за пяць дзён даволі цяжкое язды па Хінскім Туркестане, мы прыехалі ў Кашгар. Везьці „калыску" прыходзілася наймаць коні, а ў іншых мясцох які. Гэта вялікая жывёла, каторую называюць „аўцабыком", бо як падобны да вя-

лікага барана на кароткіх нагах, з воўнай аж да зямлі і з бычынай галавой. У горах які ходзяць дасканальна, выступаючы з дзіўнай пэўнасьцяй. Калі мы, наймаючы якаў везьці калыску, пыталіся павадыра ім назад, нам адказалі: „Ня трэба! Яны самі знайдуць дарогу, бо гэта маткі, што маюць сысункоў!“ І запраўды, прыехаўшы на месца, іх выпраглі, і яны зараз абярнуліся ў кірунку, скуль мы прыехалі. Гэтага дня здарыўся прыпадак, каторы мог скончыцца вельмі смутна. Сход з гары быў такі ўсхоны, што жонка мая й дзеці вылезьлі з калыскі і пайшлі пехатой. Правадыр жа, з пустой калыскай, падыйшоў так блізка да бяздоньня, што раптам адзін з пярэдніх якаў апынуўся ў паветры, а заднія абаперліся аб скалы і задзержылі калыску. У гэтую часіну я дзякаваў Богу, што жонка мая й дзеці не сядзелі ў калысцы!



Наш караван едзе ў Кашгар.

Вялікая была нашая радасьць, калі мы па двух тыднях цяжкога падарожжа прыехалі ў Кашгар, дзе швэдзкія місыянары вельмі хораша нас прынялі.

За шклянкаю добрае кавы, каторая нам вельмі падабалася па нягодах падарожных, мы гутарылі пашвэдзку. Адным з першых пытаньнеў было, ці маю я хінскі пашпарт. Ведама, я меў

толькі швэдзкі пашпарт і расейскі пашпарт падарожны. „Як-жа вас прапусьцілі пераз хінскую граніцу, дзе контролююць пашпарты?“ Аказалася, што кухар мой без майго ведама ў дарозе выдаваў мяне за новага расейскага консула. А дзеля таго што мы па дарозе сустрэлі старога консула, хінскія ўраднікі паверылі гэтай байцы і прапусьцілі нас. У Кашгары цяперака было шмат клопату, пакуль хінская ўлада пераканалася, што я ня быў расейскім шпегам.

Мы хацелі ехаць далей у Ярканд, дзе я спадзяваўся знайсьці працу, але нас ня пушчалі, і місыянары мусілі паручыцца за нашую пэўнасьць з палітычнага боку. Віцэ-губэрнатар тэлеграфаваў у Пэкін, пытаючыся, што мае з намі рабіць; а я тэлеграфаваў у Шанхай да швэдзкага консула. Нарэсьце, за тры тыдні нам выдалі пропуск у Ярканд. Увесь гэты час чаканьня мы гасьцілі ў місыянараў; нягледзячы на гэта, грошы нашыя таялі ў руках, бо курс расейскіх грошы быў зусім нізкі. За пяць дзён язды ў калёсах або конна, часткава па вырабленых, часткава па пескавых мясцох, мы прыехалі ў Ярканд, дзе нас ізноў сардэчна прынялі швэдзкія місыянары. Ужо першага дня прышоў турэцкі „хвабрыкант“ Таш-Ахон, вёрткі мусульманін з лісім тварам. Пачаліся перагаворы. Мы даведаліся на ягоную ткацкую майстроўню й хварбоўню, усё чыста з ручной працай, як у нашых прадзедаў некалькі стагодзьдзеў назад. Потым я мусіў укладаць плян і каштапіс дзеля перастаўленьня ўсяго на эўропэйскі лад. Увесь тыдзень мы працавалі вельмі пільне, місыянары памагалі перакладаць, бо я ня знаў турэцкае мовы, а Таш-Ахон мала знаў парасейску. Умова па ўмове былі ўкладаныя, шмат пры гэтым выпіта гарбаты, але з падпісаньням умоваў Таш-Ахон неяк агіляўся.

Тым часам я дастаў з Масквы наказ*), што фірма нашая спыніла сваю дзейнасьць і разьвітаваецца з усімі, хто ў яе служыў. Тады я, не дачакаўшыся падпісаньня ўмовы, пачаў працаваць у Таш-Ахона; але пасьля месяца пераканаўся, што дарма я працую: у ўсім быў гэткі непарадак і бязладзьдзе, што працаваць было немагчыма. Плаціць за працу маю ён таксама не хацеў. Але па некалькі тыднях хінскі бурмістр у Ярканьдзе, даведаўшыся ад місыянараў аб гэтым, прыслаў мне грошы, што мне належылі ад Таш-Ахона із собскае свае кішані — ведама, ён іх з лішніцай спагнаў з Турка!

*) паведамленьне.

Гэтак я з сям'ёй сядзеў бяз працы на станцыі місыйнай ажно да чэрвіня 1918 г. Вясна ў гэтым краі дзіўная. У маі я захварэў на воспу, а дачушка мая на запаленьне лёгкіх. За некалькі дзён яна раптам сканала ад аслабленьня сэрца; я навет ня мог быць на ейным пахове. Гэта для мае жонкі быў вельмі цяжкі час!

У Туркестане я ўцеміў карысьць ня раз грэбаванага ў нас шчапленьня воспы. Шчэпленыя або зусім не хварэюць на воспу альбо вельмі лёгка, як я. А няшчэпленыя ўміраюць сотнямі альбо вельмі шпэцяцца. Сьмяротнасьць сярод дзяцей тубылцаў ад воспы вялізная: яны ўміраюць тысячамі. Гэтак праходзіў месяц за месяцам, і я дарма чакаў працы. Варочацца ў Расею было немагчыма; так сама немагчыма было ехаці ў Эўропу! Ужо цэлы год мы нічога ня чулі аб сваіх у Швэдзіі й у Швайцарыі.

## Што сабой прадстаўляе Ўсходні Туркестан?

Тут хачу даць кароткі начырк палажэньня й адносінаў у Хінскім Туркестане.

Край прадстаўляе пласкагор'е і ёсьць аднэй з 23 провінцыеў Хіны. Пахінску ён завецца: „Сын-кянг", займае прастор у 1 міл. 200 тысячаў квадр. кілёмэтраў пры насяленьню ў 3—5 міліёнаў. У ўсёй Хіне нясяленьня лічаць 400 міл., хоць, агулам кажучы, у Хіне лічба жыхараў няпэўная, бо статыстыкі праўдзівае там нямашака.

Сын-кянг на поўначы граніча з Сыбірам і Расейскім Туркестанам, на заходзе з Расейскім Туркестанам і Афганістанам, на паўдні з Індыяй і Тыбетам, на ўсходзе з правінцыяй Консу. Унутры гэта вялікая раўніна, каторая мясцамі ляжыць ніжэй за зьверх мора. На поўнач, захад і паўдня цягнуцца ланцугі гораў Цян-Шань, Алай, Памір і Гімалая, так што прыкладам у Кашгары відаць вянок гораў із сьнегавымі вярхамі. Найхарошшы спазор! Бяз гэтых ланцугоў гораў край-бы вымер, бо наагул у Ўсходнім Туркестане дождж ідзе хіба раз або два ў год, але край дастае вогкасьць з рэкаў, што сыцяцца сьнегавымі масамі менаваных гораў. Пры гэтым зямля такая плодная, што яна ўсюды, дзе толькі ёсьць вада, у сто разоў выдае плод. Штучных спосабаў гнаеньня зямлі тамака ня знаюць, але яе гнояць зусім прымітыўным спосабам. Людзі ня дурныя, і вось

яны зацемілі, што зямля, распаленая сонцам, робіцца вельмі плоднай, і цяпер на гнаеньне палёў бяруць старыя гліняныя сьцены места альбо дамоў, што за некалькі стагодзьдзеў парухаліся. Сьцены гэныя пастаўленыя ня з паленае цэглы, а з сырое гліны. Таксама рупатліва падмятаюцца дарогі, каб плодным пылам і шумецьцям пасыпаць палі. Прылады гаспадарскія тут такія, якія былі ў нашых прэдкаў шмат стагодзьдзеў назад. Саха—гэта проста калода дзеравяная з куском зялеза. Насяленьне займаецца земляробствам і гадоўляю статку.

Апрача трох вялікіх местаў: Кашгара, Ярканда й Хотана (па 250 тысячаў і балей жыхараў) у краі ёсьць яшчэ каля 20-ёх меншых местаў. Рэшняе насяленьне жыве ўдоўж рэкаў і каналаў. Ад рэкаў на ўсе бакі праводзяць вялікшыя й меншыя каналы, пакуль яны ня чэзнуць у пескавой пустыні. Каналізацыя гэтая патрабавала вялізманнае энэргіі, і што год працу трэба пачынаць ізноў, бо рэкі з гораў прыносяць з сабой шмат гліны, каторая ў значнай колькасьці асядае на дне каналаў.



Вадаводныя каналы ў Хінскім Туркестане.

Чыстае вады ў краі зусім няма. Ёсьць некалькі крыніцаў з прасьветнаю вадою, але мясцовыя людзі баяцца гэтае вады,

каторую яны завуць „чорнай“, і ня п‘юць яе. Вада з рэкаў не благая, калі ёй даць астоіцца. Мы не варанае вады ня пілі, але жыхары п‘юць сырую ваду, і, здаецца, ад гэтага даволі частыя прыпадкі ў краі апрычонай хваробы, званай вальляк (вольле). Каля Ярканду мы бачылі людзёў з вольлям увелькі з дзяцінаю галаву.

У Хінскім Туркестане сеюць збожжа (рыж, кукурузу, проса, ячмень і пшонку) і садзяць бульбу, але апошняя дробная і позна пасьпявае. Статку сеюць люцэрну. Таксама сеюць лён і коноплі—апошвія на вяроўкі. Усюды шмат маку, з каторага робяць опіум. У добра дагледжаных садох растуць ляшчыны, яблыны, ігрушы, смоквы, морэлі, вінаград і рожы.

Жывёла ў краі дробная. Карова дае не балей за 3 — 5 літраў малака ў дзень, і гэта пры добрым даглядзе ў Эўропейцаў. Шмат гадуюць козаў і авечкаў, бо тубылцы пераважна ядуць бараніну. Хінцы гадуюць і сьвіньней, мяса каторых мясцовыя Туркі, будучы мусульманамі, ведама, не ядуць. Як рабочая жывёла ўжываюцца тут валы, коні, аслы й вярблюды. Вярблюдоў тутака шмат, і яны даволі танныя. Усе чыста жыхары Туркестану езьдзяць конна, але ступою або рысьсю. Вярблюды ходзяць „іпаходам“, і шмат конеў і аслоў прывучана да гэтага ходу, так што коньнік сядзіць на іх і гойдаецца, бы ў калысцы.

(Далей будзе).

---

АЎГЕНЯ КАРШУНЯНКА.

# НОЧЫ.

Дзіўныя ціхія ночы:
Месячык ясна глядзіць,
Зоркамі ўсеяна неба,
Срэбрам іх сьвет мігаціць.

Дзіўныя красныя ночы,
Будзіце дух мой к жыцьцю,
К сьветлым ндзеям у марах,
Гора і бед забыцьцю.

У гэткія ночы хацела-б
Нешта сьвятое кахаць,
Гэткімі ночмі люблю я,
У выш лятуценьні снаваць.

Мілыя красныя ночы,
Ўцеху вы мне нясіцё —
Гледзячы ў вашу прыгожасьць
Радасным бачу жыцьцё.

---

[1]) выцьцё, енк. [2]) гэткіх губэрнатараў цяпер зьмяла хінская рэволюцыя. — *Рэд.*

Міх. ЧЭМЕР.

# „Верная дачка Сонца“ і „Шчырай Зямелькі“.

## Натальля Арсеньнева: „Пад сінім небам“.

Віленскае выдавецтва Б. Клецкіна. Вільня, 1927. Стар. 141 у 8⁰.
— *Цана 2 зал. 50 гр.* —

(Глянь кн. 5 „Род. Гонеў“).

Прырода Арсеньневай—зусім жывая, навет неяк—людзкажывая... Гэтае глыбокае пачуцьцё свае кроўнае свайні - сынаўства з Сонцам і Зямлёй, каторыя спарадзілі ўсё, што ёсьць „пад сінім небам“, робіць паэтцы блізкімі, як браты ды сёстры,—усе творы ды зьявы ў прыродзе. Шчырым пачуцьцём, цалком ужо незразумелым у нашыя „разумныя“ часы, паэтка адчувае ня толькі жывымі, але—маючымі быццам душу ды сьведамасьць—усё што ёсьць у прыродзе.

У ўсім яе жыцьця - пачуцьці ды сьвета - паглядзе ўсьцяж жывы той відаць несьмяротны ў паэзыі, „спачатны анімізм“, каторы калісьці прасякаў наскрозь нашую старадаўнюю „рэлігію Сонца“...

Далей мы пакажам, як паэтка, сьпеючы духоўна, прабуе шукаць выхадаў за межы гэтае абмежанасьці „стуленага кола вечных паўтарэньнеў“, — „адвечнае песьні“ Прыроды, каб перамагчы гэтую *залежнасьць* ад яе зьменнасьці, каторая — часамі нязносная, часамі страшная чалавеку ў грамадзянстве... Але гэтыя праўдзіва-людзкія высілкі—тым болі маюць хараства ды высокае павучальнасьці, чым болі моцнае ды жывое карэньне мае яе жывая, чулая, творчая душа ў Прыродзе... Яна гэткім парадкам, як кожны запраўдны паэта, нічога быццам не бярэ на-веру — з усяго, што існуе ў гатовым відзе ў сучаснай „духоўнай традыцыі“ — яна сама хоча тварыць - пэражываць усю даўгагоднюю эвалюцыю народнае сьведамасьці—за сваю ўласную „рызыку й страх“.

---

Дык — гляньце, як запраўды жыве ўсё ў яе паэтычнай Прыродзе! —

Сонца — жывое, бо гэта—жывы Бог Прыроды й Жыцьця, Бацька ўсяго, што толькі ёсьць „пад сінім небам“ сьветлага, дужога, сьмелага, радаснага!...

Сонца — ня толькі „сьветла грэе“, але і— „*лашчыць* спакойна і лёгка бяз конца“. (стар. 22).

„Сонца... росы *усьмешкаю* сушыць“... („Край“, стар. 9).

„Сонца... *нясе пацалункі*“... „*заве* да сябе“... („Пралескі“, 14).

„Пад *паглядам* Сонца — прападаюць трывогі... („Зімовы ранак“, 36).

Ці-ж няясна, што Сонца—жывая істота, сутнасьць якой—ласка, радасьць, Любоў...

Неба—так сама жывое—Яно—„ласкае вас“...

„Неба сіняе, сіняе, сіняе“—ня толькі зьзяе, але — жыве: яно будзіць зямлю ад доўгага сна“... („Красавік“, 23).

Вясна—пэўне-ж што жывая: яна „пазірае спакойна - смутна—пекнай княгіняю“, „сее новыя сьветлыя сны“. (Там-жа).

А восень, быццам паміраючая, і тая — жывая: бо-ж, навет канаючы, усьцяж — „іграе на ліры“... —

„...Прыбраўшыся ў кроў і у сонца,
„У золата—лісьце, ў жамчуг—валаконцы,
„З ліры сваей здабывае бяз конца
„Струнаў глухі перабор.“... (Жоўтыя клёны“, 32).

Але восень ня толькі грае на ліры, але і—гавора:

„Чуюцца, чуюцца восені словы —
„У фарбах, паўтонах лісьця і нябёс,
„У лёгкім дрыжэньні бярозаў бяз мовы,
„У сьвежасьці льдзістай, што вецер прынёс“...
(Восень“, 35).

Вецер-ветрык—зусім ды бяспрэчна жывы!... бы хлапец-пастушок, ён — „жартуючы вее“, „лашчыцца да кустоў“, „штось ім пяе“ на вушка... А часам — „злы“, — „адкіне жалейку“, на якой толькі што граў, дый—„схаваецца ў кусты“... („Красавік“ 23, 22, 24, 34).

„Поўна жыцьця (і) жаўтацьвет-сенажаць, што шле да Сонца свае „зыкі“, дый уся „звоніць песьняй“... („На сенажаці“, 26).

„Дыхае“ — бо-ж — жывое! — „поле ў сонцавых косах“... (Там-жа).

Жывыя й таполі, што — „праз сон штосьці ляніва шапочуць“...

Клён—нават увосені—жывы ды „пышны“, толькі—„маўклівы“... („Восень“, 32).

Навет, здавалася-б ужо мёртвыя лісты гэтага клёну — "сыплюцца ціха, жахліва, маўкліва, крыючы зямлю сваім золатам"... (33).

Зусім жывыя навет — „маленькія яблынак рожкі", каторыя толькі што нарадзіліся — бо яны — „нібы рвуцца да сонца лучоў"... („Вясна", 21).

У харошым вершу „У лесе" паэтка расказуе, як узнавіла яна забытую вякамі „знаёмасьць" — з старым жывым „дзедам-лесам"... —

„Лес вітаў нас нячутнымі словамі"...
— — — — — — — — — —
„Штось казаў бор... Дубы нярухомыя
„Слалі з ветрам нам шэпты забытыя,
„І здавалісь такімі знаёмымі
„Словы іх, з мовай сэрцайка зьлітыя"...
(„У лесе", 27).

Ці-ж ня ясна, што гэтая „нячутная мова лесу", мова старых дубоў, жывых сьведак тых старадаўніх часоў, аб якіх нам асталіся толькі казкі ды песьні, гэта-ж — толькі добра забытыя чалавекам „шэпты" зусім жывое Прыроды... І вось, гэтую спрадвечную, але амаль што не забытую намі ўсімі „мову Прыроды", зьлітую з „мовай сэрца" людзкога — увадзіную, агульную ды супольную Мову для ўсяго, што толькі жыве „пад сінім небам" — ускрашае нам нашая пясьнярка...

Але-ж—ня толькі жывое ўсё—„пад сінім небам"—у дзень, калі сьвеціць-грэе-лашчыць Сонца. —

Жывая зусім сама — Ноч!... „Вечная чараўніца" — „ночка ціхая, расістая"... Яна—ідзе над палямі, лагчынамі, паліць зоры на небе, кідае кроплямі роснымі, дыхае рознымі пахамі ў сонным бару, варушыць галінамі ліпы... („Ночка", 30).

„Ноч сонныя дрэвы прывабіла ласкай,
„Таемнай, няцяжкай, маўкліваю казкай
„Апошнія сьцішыла гукі"... (34).

Ды ці-ж ня жывая істота гэта ціхая, цёмная ноч, калі яна—як дзяўчына:

„Акрыўшыся хусткай туману,
„Нячутна зыйшла на зямлю;
„Над сьветам, паснулым дарана,
„Раскінула ўладу сваю...

„Спляла сіняватыя цені
„Ад цёмных бяроз і кляноў
„І месяца косы—прамені
„Зьвяла на зямлю з небясоў.

„Збудзіла начныя згаворы,
„Шум - шэлях цяжкое травы,
„Сьмяялася з жабяга хору,
„І плакала ў плачы савы...

„Да сэрца людзкога паволі
„Вужакай сьлізкой прыпаўзла,
„Старыя забытыя болі
„Ізноў паднясла, падняла..

„Збудзіла ў адных—няіначай,
„Як жаркай крануўшы рукой,
„Найгоршыя мукі распачы,
„У другіх—найвышэйшы пакой... („Ноч", 25)

Тут Ноч зьяўляецца перад намі — запраўднай чараўніцай нашых казак, ускрашаючы й старадаўнюю веру народную ў дзіўную здольнасьць такіх „надлюдзкіх" істотаў—прыймаць абразы розных зьвяроў...

Навет, здавалася-б, ужо вякі аджыўшы, астыглы, мёртвы месяц, і той запраўды—жывы! —Бо й ён—з „*усьмешкай* халоднай усходзіць, прыбраўшыся ў мглы", на неба...

А ўжо, здавалася-б, на што халодныя, далёкія, няведамыя нам зоры, але і аб тых—з сусьветнай „мовы сэрца"—даведалася бяспрэчна пясьнярка, што й яны—жывыя.—З пераконуючымі праўдай ды харaством сваіх паэтычна-рэлігійных інтуіцыяў—пясьнярка запэўняе нас, што сама бачыла, як яны, гэтыя зоры,—

„Ранілі халодныя сьлёзы"...

А часамі яна проста чуе, дый прынукае чуць і нас, як —

„Клічуць вечарам зоры
„У сусьвеце прасторы"...

---

Усё, усё „пад сінім небам" жыве ды жывіцца з гэтых жывых спрадвечных жаролаў жыцьця, усё набіраецца гэтае сьветазарнае сілы й ласкі Сонца...

І ўсё, што выходзіць з глыбіні цёмных, але жывых родных нетраў „Зямелькі шчырай", цягнецца, імкнецца ўгару—„ins hohe Meer"—да „паўніні жыцьця ў сусьвеце",—як кажа добра дабраны (але дрэнна толькі вось перакладзены...) эпіграф з Гэтэ, які стаіць на чале ўсяе кніжкі... Усё жывое, дужое, здаровае, што спарадзілася на зямлі, імкнецца ў магутным парыве—пад непераможным, чароўным „зовам Сонца"—угару,—

каб хаця на часіну прыняць учасьце ў тым „праўдзіва-ўзьлётным“, „дзіўным, як сон, жыцьці“, у тым „бясконцым сьвяце“, якія панують—„у нябесных сінях несьмяротных... Імкнецца ўгару, але ніколі не адрываецца ад роднае Зямлі“...

У гэтым сьветлым, шырокім, магутным ахопе сонцавага Жыцьця ў Прыродзе, з якога выйшаў дый у якое мае з шчырым давер'ям уліцца, як кропля ў моры, як частка Прыроды-Жыцьця, чалавек, нашая пясьнярка запраўды зьбліжаецца да пантэістычнага сьветапачуцьця вялікага нямецкага паэты, які — у свой чарод—паглыбіў ды ўсьведаміў свае паэтычныя інтуіцыі пад магутным уплывам ведамага нашым чытаром — слаўнага філёзофа Сьпінозы...

І гэты сонячны сьвет, гэты сьветлы „пазытыў жыцьця“— найхарошшая сутнасьць паэзыі Арсеньневай.— Шчырым золатам паэзыі, усімі хварбамі вясёлкі — з усёй сілай ды рэальнасьцяй запраўднага самамэтнага жыцьця—сьвеціць ды грае ён у вершах нашае пясьняркі, даючы нам — запраўдную радасьць мастацтва...

---

## II.

Але, апрача сьветлага, радаснага - сонечнага „пазытыву“ Жыцьця, існуе і яго цёмны жудасны „нэгатыў“... Побач з гэтым сіне-залатым „сьветам дня“ існуе—„сьвет чорнае ночы“— „Цемры-„Імглы“... Побач з вольным, прасторам, шырокім бязьмежным, „лёгкім, узьлётным як сон“, жыцьцём - натхненьням без перашкод „і без роспачы, існуе—„зачараваны кут“, дзе былое вольнае сьветлае калісьці Жыцьцё — запраўды неяк загнана ў кут, адкуль няма ўжо ані ўзьлёту, ані выхаду, дзе ўся сутнасьць існаваньня—у бясьсільнай роспачы, у дарэмнай пакуце, у дарэмных высілках — вярнуць тое, чаго ўжо нельга вярнуць, направіць тое, што ўжо—непапраўляльнае...

Але й тут—хай злое, варожае чалавеку, патайное—усё-ж неяк пануе Жыцьцё! Можна сказаць—усьлед за Арсеньневай— што сьмерці быццам зусім няма—„пад сінім небам“ яе паэтычнага сьвету... Жыцьцё толькі неяк зьмяняе сваю форму, сваё дзеннае аблічча на начнае, усьцяж астаючыся Жыцьцём...

І тут ізноў пясьнярка ўскрашае старую народную веру спачатнай рэлігіі натуралізму—у несьмяротнасьць жыцьця, у сталую нясталасьць, зьменнасьць яго формаў, але—бязупыннасьць, неперарыўнасьць яго на зямлі...

І вось — дадатняй рысай шырокага паэтыцкага таленту Арсеньневай ёсьць тое, што яна адчувае, ахоплюе ды адбівае Жыцьцё-Прыроду—у ўсёй яе суцэльнасьці,—ня толькі на шырокіх прасторах пад ясным сонцам, але—у ўсіх „кутох“, цёмных ці праклятых, дзе толькі ёсьць—Жыцьцё...

Другі ўступны, „праграмны“ верш — 1925 г. — (бо-ж „прадмова“ заўсёды—пасьляслоўе!...) добра кажа аб гэтым валікім жаноцка-любоўным Сэрцы пясьняркі, дзе запраўды „жыве і пяе“—увесь жывы сьвет...

Сонца вясеньняга першыя косы,
Грукат крыніцаў і раньнія росы,
Восені жоўта-чырвонай адцені,
Смуткі зьмярканьня, начы лятуценьні,
Сэрца развагі і сэрца парывы,
Песьні, што ўлетку плывуць па-над нівы,
Плач лясуна, карагод русалчыны,
Чары і зводы начное часіны,
Смутнай балотніцы сьмех-прычытаньне,
Роднай старонкі ціхое каханьне, —
Усё, што у серцы жыве і пяе, —
Вершы мае...

---

Адабражэньню гэтага цёмнага нэгатыву Жыцьця-Прыроды пасьвячаны навет цэлы асобны адзьдзел, траха палова ўсяго зборніку.

Гэты адзьдзел мае назоў „Зачараваны кут“ (з крыніцы народнай), і першы, уступны, верш таго-ж назову ёсьць запраўды мастацкім пролёгам да гэтае „цёмнае паловы Жыцьця“, аб якой так многа ведала дый ведае дагэтуль, і так многа сказала наша „народная крыніца“... Бо-ж, можа, не знайсьці ва сьвеце другога такога народу, які-б, як наш, — так мала жыў вольным, сьветлым, шчасьлівым, узьлётным „жыцьцём натхненьням без перашкод“, а так многа вякоў быццам запраўды быў —усімі сіламі сусьветнае Цемры — загнаны ў нейкі „зачараваны кут“ нявolі, бясьсілы, пакуты й роспачы!... І толькі цяпер магутна адраджаецца на нашых вачох у нетрах ягонай душы дый вырываецца ў вольных рытмах яго новай паэзыі паўзадушаная вякамі, паўзабытая народам — воля да Сонца, да перамогі над чарамі й „марамі, што душаць у жыцьці“!...

Мы ня маем тутака магчымасьці вычарпаць усяго глыбокага зьместу гэтага адзьдзелу, адкладаючы гэтую ўдзячную за-

дачу на іншы раз. Дамо толькі паняцьце аб тым, з якой шчырасьцю адчувае, з якім мастацтвам малюе, заражаючы нас яго жудой і вечнай трывогай, пясьнярка—гэты цёмны, фатальны ,,кут" Прыроды. Бо, калі ,,нябесныя сіні несьмяротныя" з іх — ,,бязконцым сьвятам" — трэба прызнаць ,,раем" ,,прыроднай рэлігіі" нашае пясьняркі, дык гэты ,,зачараваны кут" ёсьць яе запраўдным прыродным ,,пеклам", з якога, як з Дантавага ,,Інфэрно",—няма выхаду назад тым, што ў яго лучылі.

У гэтым цудоўным жудасна - імпрэсыяністычным пролёгу забрана ў вадно ўсё цёмнае насяленьне гэтага ,,ночнага сьвету", ведамага нам усім—з нашых казак ды павер'яў,—усе так званыя „стыхійныя духі"—астачы даўнейшае рэлігіі—якія, як ведама, былі 1000 год назад быццам кераможаны новай рэлігіяй хрысьцянства, загнаны яе ,,крыжом ды мячом" у гэты ,,зачараваны кут", але чамусьці дагэтуль маюць такую страшэнную, варожую сілу ды ўладу — ,,Цемры-Мглы" — над нашым народам, закрываючы ад яго — яснае Сонца... Вадзянікі, балотніцы, русалкі, ,,страшныя сьліўні з гаці", спорнікі, ведзьмы, лясуны, начніцы і г. д. г. д. — аджываюць у гэтым „куце", у гэтай цемры-імгле і — ,,кола зьменнае вядуць"... Вечар-быццам мост з царства дня ў царства ночы... Дык зробім поруч з пясьняркай—некалькі крокаў праз гэты мост у гэты сьвет жуды ды цемры.—

Вечар... Сонца занікае,
Кроў зары бляднее, тае,
Тае ў небе, на зямлі.

Дрэвы - м а р ы у гушчары
У м г л ы зьліліся сіняй х м а р ы,
А н я м е л і ў цішыні.

Ч о р н ы м робіцца балота,
Йшчэ ч а р н е й — лісты чарота;
Толькі зорныя агні

Загараюцца ў бяздоньні
І ў балотнай н е м а й тоні
Адбіваюцца яны

— — — — — — — — —

І чарот тады з а п л а ч а,
Быццам ж а л ь б у, няінача,
Ў ц е м р у лесную нясе...

З а н я м е л і сосны бору,
Ня стрыхнуць дрымоту - змору,
Што к ім з нетраў прыпаўзла...

І так далей, усё ўзмацняецца цёмная, жудасная сіла гэтага абразу — навекі выгнанага з пад Сонца, загнанага ў гэты кут жыцьця—чорнага-цямранага-туманнага, нямога, плачучага, жалючагася, ахопленага зморай-дрымотай, нездаровага, схіліўшагася, падгніўшага, струхлелага, „жудасным гудам гудзячага“, гушчарнага, імшарнага, беспатольнага, дзікога, грэшнага, злога, зводнага, загадковага, зьменнага, палахлівага, спорна-зьмяінага, атрутна-чароўнага, хрыпла-сіпла мармочучага, галосячага распачай-адчаям тапельніцы, але ўсё-ж непераможнага для сьмерці—Жыцьця*)... Адзінай пацехай для ўсяго гэтага „быўшага Жыцьця“ ёсьць — сьвятло-коска месяца, у якім толькі і адбіваецца для яго навек недаступнае для гэтага „кута“ Сонца, — быццам сымболізуючы тым блядыя спаміны аб няўдала пражытым, ашукаўшым, зламаным, падбітым жыцьці на зямлі ўсіх тых людзёў, што лучылі сюды, у гэты „кут“— пасьля так званае „сьмерці“...

---

І запраўды—апрача аднаго вершу-казачкі гэтага адзьдзелу аб тым, скуль і як бяруцца песьні паэтаў, „сьпевы, што вытканы за сьветам“ („Сны“), усе 7 вялікшых твораў гэтага „Кута“ даюць прыклады ды апавяданьні аб тым, як фатальна, трагічна ламаецца, падбіваецца, ашукуецца на зямлі — часта найхарошшае чалавечае жыцьцё, якім шматлікім шляхам гэтае жыцьцё, няўдалае, зламанае, — пераходзе з-пад сіняга неба ды яснага сонца ў гэты —„Зачараваны кут“...

Зробім кароткі агляд зьместу адзьдзелу.

„*Балотніца*“, „прычытаючы ды мучачы душу ўначы“ сваім плачам, расказуе нам, — як яна — „загубіла сваю маладасьць, веру страціла, сілы страціла“, аддаўшыся душой і целам „чарнабрываму“, які—„жартаваў-гуляў“ з яе маладой душой, а пасьля — кінуў ды пайшоў... Але згубленая на зямлі людзьмі — балотніца ўсьцяж жыве ў сваім „зачараваным куце“ дый імсьціцца, губячы — топячы ў балоце — падобвых да таго, што яе згубіў...

„*Плач старога лясуна*“ — чароўны расчуляючы, поўны глыбокага сымболізму абраз. — „Бор вырубалі“ людзі, руйнуючы спрадвечную сялібу старога лясуна, які—усьцяж плача ад гэтага ў бясьсільнай злосьці... — „Доўга равець ён, пакуль ня уймецца“...

---

*) Усе гэтыя эпітэты ўзядзены з багатага імпрэсыяністычнага слоўніка пролёга.

А мы-ж ведаем, якую глыбокую спрадвечную забытую людзьмі мудрасьць хавае ў сабе лес—з вершу „У лесе“. Другі верш аб лесе (стар. 47) кажа, што лес, гэта—„хорам быццам незямны“, у які трэба ісьці маліцца“, калі хочацца плакаць, калі людзі пакрыўдзяць цябе... Бо ж толькі там знойдзе—у яго спрадвечнай цішы—сцаленьне... Толькі там пачуеш ты — „у шэпце лісьця“, „з мовай сэрцайка зьлітым“ — словы найвялікшае мудрасьці й пацехі, якая толькі ёсьць для чалавека на сьвеце, аб якой кажа чалавеку ўся прырода: „Ты даруй неразумным, як я“... скажа лес. —

І адыйдзе паволі нуда...
Уцяміш ты, што нядоля твая
Гэта — кропля у моры жыцьця,
Дзе усюды — і боль і бяда...

Але гэтае спрадвечнае „пасыўнай мудрасьці расьлінаў“, мудрасьці пакоры, тае мудрасьці, што на руйнаваньне жыцьця адказуе толькі бясьсільным плачам ды „рэзыгнацыяй“ старога лясуна, — не разумее дый ня хоча болі слухаць сучасны чалавек — актыўны ды ўмелы барацьбіт за сваё „мейсца пад сонцам“, „пад сінім небам“,—за сваю долю!.. Шкада чуламу сэрцу паэты — і гэтага бору і гэтага лясуна... Але — няхай гэты лясун ідзе ў „зачараваны кут“ — з сваёй бясьсільнай злосьцяй проці новага жыцьця дый з пакорнай мудрасьцяй старога лесу!..

---

Жудаснае „*Вясельле*“ ізноў кажа аб тым, як —

„...спраўлялі вясельле ля млына —
„Вадзяны дзед з заліўцай-дзяўчынай“,

маладое жыцьцё каторай так сама, відаць, зламалася на зямлі...

---

Харошая вершаваная казачка „*Зорка*“ вуча аб тым, як імсьцяцца дзяцюком „лятавіцы, злыя чараўніцы“, што „ў вясеньнюю ночку сыплюцца (зорным) дажджом“ на зямлю...

„Зоры ёсьць такія — ясныя, ціхія. —
„Душы праклятыя там жывуць, чуваць...
„І за крыўду гэту да сканчэньня сьвету
„Пакляліся мсьціцца—людцаў чараваць“...

Далей харошая казачка апавядае аб тым, як гэткая „зоркай зьляцеўшая, скінуўшаяся дзяўчынкай“ „праклятая душа“ збаламуціла ў зорную ноч дзяцюка, што пакахаў яе—з усёй бяс-

спыннай гарачынёй пясьняра-паэты... А калі зводнай дзяўчынцы прышла пара ізноў абярнуцца зоркай на небе, пясьняр, сьціснуўшы яе, — разам з ёй... падняўся над борам, але — затрымаць „зоркі“ ня мог... — Дый сам абярнуўся ў жаўранка, а з таго часу жыве — пясьняр!—неяк між небам і зямлёй, усьцяж высіляючыся, але—дарма!—даляцець да тае зоркі, што сьмяецца з яго горка на небе —

„І хлапца-жаўронка зводзіць, злая, зноў“...

Горка - жудаснае, абвеянае вялізарным, нялюдзкім, хапаючым за сэрца сумам, апавяданьне „Шчасьце“ кажа аб долі— „долі і шчасьцейку“ на нашай зямельцы найхарошшай дзяўчынкі-сірацiны, каторай матка — „ў рацэ ўтапілася“, а „бацькі ня ведала навет дзяўчына“... Усё выцярпела, зьнясла, перамагла, „працуючы на чужую сям'ю“, дужая, гордая, дзіўна-прыгожая дзяўчына. Не перамагла толькі вось у сэрцы — жаданьня шчасьця... Чараўнік - млынар, да каторага Галіна йдзе, каб раскрыў ёй будучыню, і варожа ёй—вялізарнае, нячуванае шчасьце! —

„Будзеш шчасьліваю, кажа Галінцы,
„Дзякуй скажы тэй шчасьлівай хвілінцы,
„Як радзіла да жыцьця цябе маці:
„Лепшае долі людзём не спазнаці“...

І спраўдзілася хутка жудасна - іранічная варажба старога млынара: —

„Жыта на ніве яшчэ не дажалі —
„Галю ў гаёчку за вёскай хавалі“...

---

„Верыла Галя, што шчасьце ўжо блізка...
„Так і сканала, як сонейка нізка,
„Нізка стаяла, і першыя зоры
„Ужо запаляліся ў небным прасторы“...

Так перайшла і яна—па вячэрняму „масту“ — з „дзеннага сьвету“ ў „зачараваны кут“...

Ганьба і гібель таму сьвету, ў якім найвялікшае шчасьце для такой дзяўчыны, як Галіна, —памерці маладой!

---

„Народнае апавяданьне“ быццам нейкі сумны, цёмны „нэгатыў“ ясных, вясёлых „Трох Будрысаў“ Міцкевічавых—„*Тры Браты*“,—кажа аб тым, як тры браты—паляўнічы, араты ды паэта—паехаўшы ў сьвет шукаць „прыгожую дзяўчыну, жонкулюбку-гаспадыню“, усе — у розны час, ды ня ведаючы адзін аб

адным — знаходзяць адну і тую-ж зводніцу дзяўчыну-красуню, дый, пакахаўшы яе болі жыцьця—свайго ды братавага, — гінуць усе трое — „тры браты, тры братабойцы“— у вапошняй—„крывавай бойцы” — „з-за харошага дзяўчаці”...

Ізноў і тут—у фатальнай залежнасьці ад *страсьці*, якую ня можа, ня мае сілаў перамагчы жывучы цалком у Прыродзе „прыродны чалавек”, — адчуваецца цёмная варожая чалавеку сіла, што цягне яго з так харошых — „у дзень прыгожы яснавокі“—прастораў сьвету ў ягоны—„зачараваны кут”...

---

Апошні, найвялікшы, твор зборніку—„*Лебядзінае Возера*“*).

Ізноў, як і ўсё,—што піша—бо-ж творыць, як сама Прырода!—Арсеньнева, і гэтая казка—пад харошай, чыста народнай, формай— зьмяшчае глыбокую думку, якая, ня пытаючыся аб тым, ці мела намер гэты сьведама пясьнярка, ці разумела тое, што творыць—сама сабою ўзрастае ў зложны сымболь, усё —ахоплючага зьместу. Гэтым сваім сымболізмам зьместу паэма - казачка Арсеньневай вельмі напамінае ведамы беларускаму чытару —у перакладзе — твор Уладз. Караленкі — „Лес шуміць“...

Толькі там „судзьдзёй” над праступным панам, які залішне лёгка захацеў зьняважыць „адвечныя законы Прыроды“ забрудзіўшы распустай харошую жонку свайго халопа - паляўнічага—страшным судзьдзёй, што заступіўся за пакрыўджанага халопа, зьяўляецца—лес.. Мы бачым, што ў мускай „філёзофіі прыроды“ украінска-расейскага мастака-народалюбца, лес зусім не такі ўжо „пакорнамудры“, як у нашай пясьняркі—з яе пажаноцку чулай, але яшчэ не дайшоўшай цалком да новае мудрасьці-барацьбы, душой... „Лес“ Караленкаў—шуміць, кліча да сябе буру-навальніцу, не шкадуе сваіх адзінак-дзярэў — кінуць у барацьбе проці распусты пана, што сьмяротна зьняважыў Прыроду й чалавека, пана, што ўрэсьце й гіне ў гэтай навальніцы—пад гнеўны шум старога лесу...

Напамінае казка Арсеньневай па аднаму з сваіх матываў і слаўную баляду Міцкевічаву „Чаты“, дзе хлапец, пакліканы ваяводай, каб цэліў у маладую яго жонку, забівае самога старога пана, вызваляючы гэтым шчасьце маладой, кахаючай, але ўсё-ж... панскае пары.

Мы ня будзем тутака дэтальна разьбіраць зьместу гэтае романтычнае паэмы - казачкі, у якой „філёзофія прыроды“ пясь-

---

*) Адзначаем і тут блізкі матыў у цытаванага ўжо Родэнбаха, што так любіў абразы белых лебядзеў.

нcorrespondingяркі зьліваецца нeяк з яе маральнай філёзофіяй, захоплюючы ў сваю мастацка-сымболічную цэласьць і ведамыя сацыяльныя матывы...

Як ведама, у гэтым многа-бокім, шмат-сэнсоўным адзінстве абразоў і ёсьць уся сутнасьць сымболізму.—Сымболь—паэтычны абраз, які канчальна дасьпеў да таго, каб стацца цалком самастойным, незалежным, зачыненым у сабе, самамэтным „сьветам", пасвойму адбіваючым аднак-жа — той самы вялікшы сьвет, у каторым ён нарадзіўся, стаўся, як кажуць — жывым „мікро-космам" (малым сьветам). Можна сказаць, што сымболі ў паэзыі адпавядаюць *сяменьню* ў жывой прыродзе, з якога, як ведама, можа ізноў паўстаць, ускрэснуць „сьвет", што яго нарадзіў...

„Лебядзінае возера" сымболізуе — пэўне-ж — рамантычную думку, родную шмат каму з вялікіх, пачынаючы з тварцоў Біблії, паэтаў — аб тым, даўно загубленым людзкасьцяй часе, калі між Прыродай і чалавекам панавала поўнае адзіноства, згода, а людзі, як чыстыя белыя лебедзі на гэтым возеры, былі шчасьлівыя—у гэтым запраўдным—спачатным *раі на зямлі*...

Цяпер, быццам кажа пясьнярка, у нашыя часы, гэтае „лебядзінае возера" існуе жыўцом, адраджаючыся бяз конца ў чарзе пакаленьняў—толькі ў *першым маладым каханьні*, у гэтым адзіным запраўдным для людзкасьці „зьверненым раі", які пэўне-ж раз у жыцьці—з ласкі боскае Прыроды—пераживае чалавек... Тады кожны чалавек, а наўперад кахаючая дзяўчына, робіцца гэтым „белым лебедзям" з райскага возера, якое быццам упяршыню выйшла з улоньняў Прыроды, як плод і Яе першага каханьня... Дык ясна-ж, як трэба сьцерагчы гэты найвялікшы на сьвеце скарб у нашым жыцьці—сьцерагчы гэтае—першае каханьне, асабліва сьцерагчы хлапцу—дзявоцкую душу, што ў пяршыню яго пакахала... Мы бачым, як арганічна—з найглыбейшых жаролаў ды нетраў Прыроды родзіцца ды выплывае на зьверх, прымаючы мастацкія формы паэтычных абразоў,—гэтая "філёзофія" харошае жаноцкае, дзявоцкае душы нашае пясьняркі... Мы бачым, колькі ў ёй — „маральнае грацыі" і рэлігійнае праўды... Але—йдзем далей—пасьля прыйшла ў сьвет—замест любові-каханьня ды згоды-шчасьця—злосьць, вайна, улада—людзкая і стварылася няроўнасьць, няволя людзей, выключаючыя любоў... Неразумныя людзі пачалі забіваць стрэламі „белых лебядзеў ды лябёдачак", усім гэтым толькі гатуючы сабе, усяму свайму злому сьвету людзкому—гібель...

Князь які не дацаніў дадзенага яму простай дзяўчынай Аленкай*) скарбу першае любові, сам згінуў у гэтым „лебядзіным возеры“, якое цяпер злыя, неразумныя людзі загналі самі з свайго жыцьця ў „зачараваны кут”... Але — прыйдзе час *суду лебядзеў над людзьмі*, час страшнага суду—„*сярэдзіннага* цара лебядзінага!“... — прыйдзе няўхільны суд і прысуд Прыроды!

Рамантычная думка аб тым, што шчасьлівы век, аб якім жывуць у сэрцы лепшых людзей—„белых лебядзеў“—паэтаў—успаміны, вернецца, вера ў тое, што гэта *адраджэньне сьвету* будзе зроблена магутнай цудоўнай моцай *любові, сіламі першага маладога каханьня* — завяршае паэму — чыста пушкінскім аккордам... Але, ідзём яшчэ далей... — Ашуканую князям дзяўчыну пакахаў яго халоп - паляўнічы... Холоп гэты хоча ад свайго пана — не салодкага жыцьця, але — *волі*, якой як раз адмаўляе яму горды пан... Але „лебядзінае возера“ — гэтая наймацнейшая цытадэля Прыроды, сяліба маладое Любові. Каханьня-Волі-Шчасьця! І з яго нетраў прыйдзе Адраджэньне новае маладое пары—ужо ня панскай, ня княскай. Прыйдзе—на руінах панаваньня гордазлоснае княжае ўлады!...

„Не сьцярпела, знаць, сэрца хлапецкае...
„(Захацеў, знаць, і сам ён памерыцца,
„Ці ў дзявочых славох пераверыцца).
„За вярбіну укленчыў, прыцэліўся,
„Ды з гарачкі, ці што, перамерыўся:
„Каб управа браць, ён улева браў,
„З-за вярбіны на князя, відаць, не ўважаў“...

Раздаўся стрэл маладога хлапца - халопа княжага... Стрэл напалохаў, але і адратаваў лябёдку... Затое—на месцы, як і Міцкевічавага ваяводу, забіў—князя...

Адраджэньню халопа-народу, што пакахаў Волю вышэй княжае ласкі ды знайшоў шлях да „лебядзінага возера“—памагае ўся Прырода, каторая ўсьцяж бязьлітасна губіць і будзе губіці ўсіх тых, што не шануюць ейных законаў волі, любові, роўнасьці й шчасьця, не шануюць гэтага Яе — „лебядзінага возера“...

„Хто заб‘е, той сам памрэ у возяры, —
„Ня губі, злы, жыцьця лебядзінага“...

(Канец будзе).

---

*) Матыў „Русалкі“ Пушкінавай.

ПРОФ. А. САВІЧ.

# БЕЛАРУСКІЯ ШКОЛЫ Ў СТАРОЙ ВІЛЬНІ.

*(у сувязі з гісторыяй культурных рухаў у Беларусі XVI — XVIII ст.).*

Пытаньне аб асьветных сяродках у Беларусі ў XVI—XVIII ст. неаднойчы зварочавала на сябе ўвагу адумыслоўцаў дасьледавальнікаў. Дзеля ілюстрацыі назавем грунтоўную працу Jocheż'аву „Obraz bibliograficzno - historyczny literatury i nauk w Polsce“, I—III (1840—1842); шмат матар'ялу дае работа Jaroszewicza'ва „Obraz Litwy pod względem jej cywilizacyi“ (т. I—II, выд. 1844—45). У многіх адносінах яшчэ астаецца найлепшым дасьледаваньне J. Łukaszewicza „Historya szkół w Koronie i w Wielkim Księstwie Litewskim od najdawniejszych czasów aż do roku 1894 (I—IV, Poznań, 1849—1851) У расейскай мове прыкладнай можа лічыцца магістэрская дысэртацыя К. В. Харламповича „Западнорусскія православныя школы XVI и начала XVII в.“ (Казань 1898 г.) Ведамасьці аб тым ці іншым культурным руху ў Беларусі ў зачэпленую намі пару і матар'ялы аб некаторых беларускіх школах можна знаходзіць у сьцягу адпаведных дысэртацыеў і ў артыкулах у розных пэрыёдычных выданьнях. Але вышменаваныя дасьледаваньні ня ўсе школы разглядаюць даволі драбязна і ня ўсю цікавячую нас пару яны ахоплююць. Найгрунтаўнейшая (з польскіх аўтараў) праца Лукашэвічава драбязьней задзержуецца на школах у Польшчы, а школы беларускія разглядае каротка. Дысэртацыя Харламповічава свае дасьледаваньні абмежуе мала болей як стагодзьдзям. Дзеля таго пазьнейшы гісторык беларускіх школаў вельмі часта павінен значна папаўняць сваіх папярэднікаў. Гэты начырк складзены на аснове матар'ялаў, ня выкарыстаных Лукашэвічам і вядзе далей работу Харламповічаву, ахоплюючы XVII й XVIII ст. Аўтар з прычынаў друкарскіх, прымушаны абмежыцца толькі беларускімі школамі, што былі ў Вільні. Ён ня сьмее навет лятуцець аб тым, каб надрукаваць цяпер сваю дысэртацыю аб беларускіх школах у XVI — XVIII ст., напісаную яшчэ ў 1916 г., катораяя складзе ня меней 45—50 друкаваных лістоў (1600 старонак рукапісных).

Аўтар.

## РАЗЬДЗЕЛ ПЕРШЫ.

### Рэформацыйны рух у Беларусі. Лютэранскія й кальвінскія школы ў Вільні.

Сталіцу Вялікага Княства Літоўскага Вільню ў XVI ст. адзін нямецкі пісьменьнік меў поўнае права назваць „civitatem ruthenicam“,[1]) відавочна дзеля таго, што беларускае насяленьне пераважала ў гэтым месьце[2]). Беларускі язык аставаўся ўрадовым языком да канца XVII ст. Літоўскі Статут[3]) (выд. 1586 г.) гэтую ўрадовасьць беларускае мовы пацьвярджае: „пісар земскі маець паруску, літарамі й словы рускімі, усі лісты, выпісы й позвы пісаці, а ня іншым языком і словы“...[4]) Але адгэтуль мы маем права зрабіць вывад, што дзеля таго, каб вайводы й судовыя старасты маглі выбіраць на ўрады „добрых, цнатлівых, годных у праве і пісьма рускага ўмеетных шляхцічоў“, павінны былі быць якіясь асьветныя сяродкі „для цьвічэньня людзей маладых“. Мы не прадстаўляем апошніх як арганізаваных школаў з правільным курсам вучэньня, з апрычонымі „дыдаскаламі“ на чале. Наадварот, мы лічым, што дакор аўтара „Перастрогі“ беларускаму панству, зроблены крыху пазьней (ужо па берасьцейскай царкоўнай вуніі, у 1600 — 1605 г.) ёсьць правільны ад пачатку да канца. Паміж іншым аўтар менава-

---

1) „местам рускім“, г. зн беларускім. Даўней наш Беларускі Народ і ягоную Бацькаўшчыну звалі начай, як цяпер. Да паловы чатырнаццатага стагодзьдзя Беларусы пераважна зваліся „Крывічамі“, а зямля Крывіяй. Ад стагодзьдзя адзінаццатага памалу пашыраецца назоў „русіны“ (а прымета—„рускі“); гэты назоў мае звычайна рэлігійнае й культурнае значэньне і толькі напару значэньне нацыянальнае. Ад паловы чатырнаццатага стагодзьдзя аж да ст. дзевятнаццатага Беларусы звычайна зваліся Ліцьвінамі, а зямля Літвой; мова беларуская таксама нярэдка звалася мовай літоўскай (побач быў назоў і „руская“ мова). *Рэд.*

2) Памятники русск. Старины в зап. губ., т. V. ,стар.-11. Пры выкладзе здарэньнеў, датычачых Вільні, мы карыстаемся гэт'кімі аўтарамі: 1) Kraszewski, „Wilno od początków jego do roku 1750“, t. I—IV (1840 — 1842, Wilno); 2) Przyalgowski, „Żywoty biskupów Wileńskich“, I—II (1860, S.-Petersburg); 3) Васильевскі. „Очерк исторіи гор. Вильны“ (Пам. русск. стар., V, СПБ, 1872 г.); 4) Ю. Крачковскій, „Старая Вильна до конца XVII ст.“ (Вильна 1893 г.). Ёсьць і сьцяг іншых работаў, пасьвячаных мінуўшчыне м. Вільні.

3) Так зваўся слаўны кодэкс законаў Беларускага Гаспадарства, званага Вялікім Княствам Літоўскім. *Рэд.*

4) Літоўскі Статут, выд. 1586 г. (Пам. русск. стар. VI, стар. 150). У гэтай цытаце, як і ўсіх іншых, ужываем правапісу цяперашняга.

нае „Перастрогі" пісаў гэт'кае: „Былі (у Беларусі) вялікія рупатліўцы, яж многа з вялікім коштам цэрквей і манастырэй намуравалі і маетнасьцямі апатрылі, золатам, серабром, перламі і дарагімі каменямі цэркві прыаздобілі, кніг языком славенскім вялікае мноства нанесьлі,—леч таго, што было найпатрабнейшае, школ паспалітых, не фундавалі"...[1]) Нябыцьцё „школ і навук паспалітых" паводле нашага аўтара, і паслужыла жаралом нацыянальнае „пагібелі" для беларускага народу. Калі й можна казаць аб якіх беларускіх школах для XV й пачатку XVI ст., дык вылучна аб элемэнтарных, дзе вучылі толькі чытаць[2]). Самое быцьцё такое элемэнтарнае школы залежыла ад прыпадковых прычынаў, а наўперад ад быцьця пры дадзеным манастыру ці царкве „годнага бакаляра" ў васобе пісьменнага дзяка.

Значне ажывілася школьная справа ў Беларусі з 2-ое чэцьверці XVI ст. ад прыходу сюды з Заходу протэстанцкіх ідэеў. Гісторыяй рэформацыі ў калішнім Польска-Беларускім Гаспадарстве, т. зв. Рэчыпаспалітай неаднаўчы займаліся навучоныя адумыслоўцы, але цэнтр іхняе ўвагі сьціраваны быў галоўна на Польшчу[3]). А тым часам протэстанцкі рух у Беларусі меў

[1]) Акты Зап. Росс. т. IV, № 148. Крыху інакш глядзіць на справу П. Уладзіміраў. Паводле яго асаблівасьці правапісу рукапісаў XV й XVI ст. сьведчаць аб быцьцю ў кніжных цэнтрах школаў пісьма (Чт. в Ист. Общ. Нестора Летописца, IV, адзьдз. II, стар. 103 і адзьдз. „Обзор южно-русских и западно-русских памятников письменности от XI до XVII ст." Кіев 1890 г. стар. 3). К. Харламповіч прызнае ў XVI ст. факт быцьця ў Беларусі праваслаўных школаў, але ліча роўнь асьветы ў іх нізкой (Западно-русскія православныя школы..., стар. 187—200).

[2]) Пам. Полем. Літер. II, 486.

[3]) Гл., напр., Szujski J.: „Odrodzenie i reformacya w Polsce". Kraków, 1880. Bukowski J. ks,: „Dzieje reformacyi w Polsce, t. I: początki i terytoryalne rozprzestrzenienie się reformacyi", Kraków, 1883; t. II: „Polityczny wzrost i wzmaganie się reformacyi do sejmu 1558—1559", Kraków, 1885. Lubieniecki St.: „Historia roformationis Polonicae", Freistadt, 1685. Likowski Ed. ks.; „Szkic historyi tak zwanej reformacyi w Polsce, od pierwszego jej wystąpienia aż do Colloquium charitativum w Toruniu 1643", Poznań 1867. Łukaszewicz J.: „O kościołach braci czeskich w dawnej Wielkopolsce", Poznań, 1835.; Zakrzewski, prof.: „Powstanie i wzrost reformacyi w Polsce", Lipsk, 1870. З расейскіх аўтараў назавём Н. Любовича: „Исторія реформаціи в Польшѣ", Варшава, 1883; П. Н. Жуковича: „Кардинал Гозіи и польская церковь его времени" (СПБ, 1882); проф. П. И. Кареева: „Очерки исторіи реформаціи в Польшѣ" (Вѣстн. Евр., 1885, жнівень-лістапад месяцы).

шмат цікаўнага і заслужуе на адумысловыя дасьледаваньні. Проф. Н. Любовіч у сваёй працы „Гісторыя рэформацыі ў Польшчы" зусім пераконуюча даводзе, што „ў гісторыі польскага рэформацыйнага руху рэлігійныя мотывы граюць далёка ня першую ролю". Упорнае ходаньве шляхты з духавенствам, ходаньне, што мела ў часе праніку ў Рэчпаспалітую рэформацыйных ідэеў сваю гісторыю, пракладала дарогу вовым рэлігійным ідэям, тачней ствapала спагадны грунт для протэсту проці існуючага царкоўнага ладу. У спрэчкі раздражненыя асобы пераносілі свае нападкі з аднае галіны на другую, асабліва тады, як зьбіты з позыцыі праціўнік прабаваў закрыцца аўторытэтам царкоўнага канону або царкоўнае традыцыі. Польскай шляхце рэформацыйны рух, што пранік у Польшчу із Заходу, быў вельмі добрым аружжам дзеля ходаньня з духавенствам, спосабам зьменшыць юрыдычныя й маемасныя правы, зьністожыць палёгкі й прывілеі, абмежыць праз меру разрослае багацьце...[1])

Аналёгічныя зьявы былі і ў Беларусі. Кірующая беларуская ерархія прабавала адгранічыцца ад сьвецкага грамадзянства, што мела ўплыў на царкоўнае жыцьцё праз інстытут патранату й брацтва. Апрача таго, сьвецкія вялікія фэодалы з нездаваленьням глядзелі на падсуднасьць сваіх папоў і людзёў епіскапскаму суду і пры першай магчымасьці стараліся аддаліць гэта. Мы ведаем, прыкладам, што ў 1544 г. мітр. Макар жаліўся Вялікаму Князю Жыгімонту I на намесьнікаў княгіні Слуцкае за тое, што яна „кажаць намесьнікам сваім слуцкаму й капыльскаму ў дзела духоўныя ўступаціся, каторыя ўрадвікі папоў судзяць і ў казьнь замковую саджаюць... мужоў з жонамі распускаюць, а да права й да казьні іх духоўнага не выдаюць"... У вадказ на гэтую жальбу Вялікі Князь загадаў княгіні Слуцкай, „што-б яе міласьць у справы духоўныя іх урадвікам сваім нічым уступаці не казала"...[2]) Ходаньне паміж шляхоцтвам і епіскапатам цягнулася праз усё XVI ст. У 1578 г. епіскап Пінскі й Тураўскі Кірыла Церлецкі жаліўся Каралю Сьцяпану Батуры на акалічных паноў каталіцкае й праваслаўнае веры, што яны проці старога звычаю выймуюць сваіх папоў і людзёў

[1]) Проф. Н. Любовіч ня быў арыгінальным. Упяршыню ўстанаўляў сувязь паміж рэформацыйным рухам і ходаньням шляхты з духавенствам проф. Закрэўскі у цытаванай ужэ намі ягонай рабоце: „Powstanie i wzrost reformacyi w Polsce". Lipsk, 1870.

[2]) Акты Зап. Росс., т. II, № 230.

„з моцы й прысуду духоўнага“, уступаюцца ў духоўныя суды, забараняюць епіскапу й протопопам ягоным і слугам спаўняць судовыя функцыі. Кароль апрычоным унівэрсалам з 21 лютага 1578 г. station ўка забараніў пінскім і тураўскім паном нарушаць царкоўную юрысдыкцыю епіскапа Кірылы[1]).

Царкоўныя людзі, падданыя епіскапаў і манастыроў, звальняліся ад падаткаў на войска,[2]) былі вольныя ад ставеньня мастоў,[3]) епіскапскія мяшчане й купцы не плацілі звычайных падаткаў[4]) і г. д. Усё гэта выклікала глыбокае нездаваленьне з боку беларускае шляхты. Усякая спроба з боку апошняе прыцягнуць духавенства да нясеньня агульна-грамадзянскіх павіннасьцеў разглядалася царкоўнымі ўладамі, як гвалт, як нарушэньне „старадаўніх“ законаў, як сьвятакрадзтва і г. д. Трэба адцеміць, што протэсты й жальбы духоўных асобаў, падаваныя гаспадару, мелі дадатнія рэзультаты для духавенства.

Праваслаўнае духавенства ў Беларусі карысталася правам браньня з праваслаўнага насяленьня дзесяціны. Але ўжо ў першай палове XVI ст. мы сустракаем прыпадкі, калі шляхта станоўка адмаўляецца плаціць царкоўную дзесяціну. Гэтак, прыкладам, у 1537 г. архімандрыт Жыдзічынскага манастыра Варсонофі жаліўся ў суд на князя Багуша Карэцкага за тое, што князь Багуш „моцне гвалтам землі іменьня царкоўнага Рудлеўскага, як поле так і дубровы забраў і кажаць на сябе пахаці“... Апрача таго, „дзесяціна, каторая з іменьня яго тарговіцкага берага, з поль і сенажацей і з гародаў з даўных часоў з веку прыходзіць на манастыр Жыдзічынскі, тую дзей дзесяціну моцне гвалтам адняў і выдаці яе ня хочаць”...[5]) Акты гродзкіх судоў, каторымі мы карыстаемся, поўныя процэсаў епіскапаў із сьвецкімі асобамі за дзесяціны, з прычыны захопу царкоўных двароў і г. д.[6]). Асабліва дражніла беларускую шляхту матар'яльнае багацьце царквы. Некаторыя манастыры і епіскапскія катэдры былі найвялікшымі магнатамі таго часу. Царкоўныя землі ў Беларусі займалі палажэньне, падобнае з палажэньням княжых і панскіх двароў.

---

[1]) Археогр. сборн. докум., отн. к ист. С.-Зап. Края, т. VI, № 124; прр. Арх. Юго-зап. Росс., ч. I, т. VI, Nr XXXIV; [2]) Арх. Сборн. т. VI, № 116, [3]) ibidem № 52, [4]) ibidem № 93.

[5]) Арх. Юго-Зап. Росс. ч. I, т. VI, № XIII; прыр. № XVI.

[6]) Напр. Арх. Юго-Зап. Росс. ч. I, т. VI, № XX, Акты Вилен. Арх. Ком., т. XXIII, № 70, 83, 111, 112, 120, 222, 312 і інш.

Прывілей Ягайлаў 1387 году звольніў двары р.-каталіцкае царквы ад усялякіх павіннасьцеў: ваеннае, падводнае, старожнае, дарожнае, ад платы ўсякіх падаткаў грашыма й натураю ў вялікакняскі скарб, ад суду княскіхураднікаў. Па Флёрэнцкай вуніі, што ўрадова ўпадобніла й зраўняла дзьве веры, гэтыя вынняткі, відавочна, былі пашыраныя і на землі царквы ўсходняга абраду.[1]) Як пачалася цяжкая вайна Вялікага Княства Літоўскага з Масквой і Татарамі, патрабаваўшы вялікіх грашавых выдаткаў, урад прабуе абмежыць ранейшыя царкоўныя незачэпнасьці, вымагаючы ад духавенства несьці із сваіх двароў ваенную службу. Літоўскі Статут 1529 г. ўжо ясна вымагае, каб двары, запісаныя на царкву, давалі людзёў на вайну...[2]) Вымаганьне ваеннае павіннасьці з царкоўных і манастырскіх земляў зрабіла першую шчэрбіну ў царкоўнай незачэпнасьці. За гэтым мы сустракаем неаднойчы спробы прымусіць духоўных зямельных собсьнікаў несьці і іншыя павіннасьці. Прыкладам, месцкія ўлады сталі вымагаць ад царкоўных людзёў, што займаліся гандлям, падводнае павіннасьці і розных тарговых мытаў.[3]) Фэодальныя правы цэркваў аддаляліся памалу, і гаспадар Вялікі Князь „будучы фундатарам і найвышшым абаронцаю цэркваў Божых і наданьня іх,“ і далей, як і раней, бараніў „стан духоўны“ «ні ўчом не нарушаючы»,[4]) але гэта было толькі прычынаю дзеля ўзаемнага нездаваленьня паміж шляхтай і духавенствам.

Протэстанцкія ідэі ішлі ў Беларусь у форме лютэранства, кальвінства й соцыніянства і пашыраліся яны прыблізна гэткім спосабам. У мястох і вялікіх местачках карысталася папулярнасьцяй лютэранства; сярод вялікіх паноў удачна пашыралася галоўна кальвінства й соцыніянства. Спрабуем выясьніць прычыну гэт‘кае зьявы. У першай палове XVI ст. беларуская зямельная арыстакрацыя энэргічна бараніла свае правы й прывілеі ад звычайнае (дробнае) шляхты. Кальвінства магло памагчы беларускім фэодалам, пад каторымі зямля захісталася. Кальвінскія валасьці мелі сьвецкі характар і галоўным кіраўніком жыцьця кожнае асобнае валасьці быў собсьнік двара, дзе была дадзеная валасьць. Вось чаму Мікола Радзівіл Чорны так ахвотне выступаў у ролі прапаведніка.

[1]) Проф. М. К. Любавскій, „Очерк ист. лит.-рус. гос.“[2] Москва, 1915, стар. 136. [2]) ib., гл. стар. 137. [3]) Собраніе древних грамот и актов городов Минской губ... Минск, 1848 г., № 57. [4]) Акты Вилен. Археогр. Ком. т. XXIII, № 76.

Каб зразумець прычыну ўдачы развою протэстанцкіх ідэеў у мястох беларускіх, трэба зьвярнуць увагу яшчэ на адну мясцовую зьяву. У беларускай праваслаўнай царкве здаўна вялікую ролю гралі брацтвы, каторыя складаліся з міран. Гэта — цікаўная, арыгінальная зьява. Крыху ніжэй мы задзержымся дзеля выясьненьня драбязьней прыроды беларускіх брацтваў. Цяпер толькі зацемім, што як брацтвы, так і ведамае ў беларускай царкве jus patronatus (права патронату) проста й наўскаса памагала ўдачы протэстанцкаму руху ў Беларусі. Протэстанцтва, што шырака давала царкоўныя правы сваім вернікам, у разьвітай сыстэме брацтваў знаходзіла сабе ня зусім чужыя абставіны; а jus patronatus, права „падаваньня“ беспасярэдне ставіла царкоўнае жыцьцё воласьці ў залежнасьць ад патрона. Калі апошні з тых ці іншых прычынаў прыймаў протэстанцтва, дык тым самым яно ўкаранялася ў усіх ягоных землях. Дэвіз cujus regio, ejus religio (чый край, таго вера) гэт'кім спосабам знайшоў сабе тут, у Беларусі, яшчэ новы ўжытак. Недарма ведамы дзеяч Берасьцейскае вуніі царкоўнае Іпаці Пацей прадказаваў, што шырокае карыстаньне прынцыпам саборнасьці зальле праваслаўную беларускую царкву хвалямі протэстанцтва.

Протэстанцтва ў Беларусі імкнулася прыняць нацыянальныя формы. Робяцца спробы выдаваць у беларускай мове протэстанцкія кнігі. У народнай беларускай мове ў некаторых протэстанцкіх воласьцях былі багаслужбы. Калі дадаць да ўсяго сказанага, што протэстанты ў Беларусі былі ў саюзе з праваслаўнымі і дружна падзьдзержавалі іх на соймах у ходаньню з агульным непрыяцелям-лацінствам, дык яшчэ лягчэй зразумеем популярнасьць тут протэстанцтва. Спосабы праніку ў Беларусь протэстанцкіх ідееў былі розныя. Гандлёвыя зносіны пракладалі дарогу протэстанцкаму руху з Заходу ў Польшчу й „Літву“ (Беларусь). Нашыя жаролы кажуць, прыкладам, аб вялікім гандлі Берасьця з Торнам і Данцыгам, гэткі-ж гандаль вяла з гэтымі местамі Вільня і іншыя месты[1]). Яшчэ ў XIV—XV ст. ў беларуска-жамойцкіх мястох аказавалася вялікая колькасьць Немцаў-колёністых. Некаторыя дасьледавальнікі знаходзяць магчымым цьвярдзіць, што протэстанцтва ў Польшчы й Беларусі стала пашырацца наўперад сярод гэтых Немцаў-колёністых[2]). Значны

[1]) Арх. Сборн. т. III., № 112. [2]) Кояловіч, „Литовская церковная унія“, стар. 13; Соколов, „Отношеніе протестантизма к Россіи в. XVI—XVII ст.“, стар. 247, 399.

ўплыў на пропаганду протэстанцтва ў інтэлігентнай часьці беларускага грамадзянства XVI в. маглі моць заходне-эўропейскія вышшыя школы — унівэрсытэты, галоўныя катэдры ў каторых у пачатку XVI ст. ўсе былі заняты прадстаўнікамі гуманістычнага кірунку. Найвялікшай популярнасьцяй сярод беларускага дзяцюцтва карысталіся Віттэнбэргскі, Лейпцыгскі, Жэнэўскі й Кенігсбэргскі ўнівэрсытэты. Ёсьць весьці, што ў Лейпцыгскім унівэрсытэце вучыліся ў першай палове XVI ст. шмат якія прадстаўнікі беларускіх шляхоцка-панскіх радоў, сярод каторых успамінаюцца такія значныя прозьвішчы, як Гедройці, Сапегі, Ходкевічы, Галаўчынскія, Кішкі і інш [1]. Творы Лютэравы, Мэляхтонавы, Кальвінавы і інш. свабодна пранікалі й разыходзіліся ў беларускім грамадзянстве ў вялікай колькасьці [2]. Пачынаючы з 1520 году, урад, умовіўшыся з царкоўнымі ўладамі, выдае сьцях загадаў, забараняючых творы вышменаваных асобаў, а ў 1541 годзе настала і яшчэ радыкальнейшая пастанова, забараняючая дзяцюком з Польшчы й Беларусі езьдзіць у Нямеччыну дзеля дастаньня асьветы, а таксама вызываць у свой край заграпічных нямецкіх вучыцялёў. Праўда, за два ґады менаваная пастанова была скасавана, але за тое срога забаранялася прывозіць з-заграніцы творы протэстанцкіх аўтараў і кнігі новага кірунку [3].

Шмат памагалі ўдачы рэформацыйнага руху ў Беларусі спагадныя адносіны Вялікага Князя Жыгімонта, што даходзіў напару да яўнага патураньня—апекі над протэстантамі. Час княжэньня Жыгімонта — пара росту палітычнае й соцыяльнае магутнасьці беларускае шляхты, каторая цяпер побач з вялікімі панамі склікаецца на вялікія вальныя соймы. З гэтай звычайнай шляхтаю ўрад прымушаны быў лічыцца, як із значнай палітычнай сілаю [4]. Опозыцыйныя адносіны беларускае шляхты да прывілееў духавенства і спачуцьцё протэстанцкім ідэям прыхінала і беларускі ўрад узьдзержавацца ад вайны з протэстантамі. Апрача гэтых чыста палітычных увагаў, у Жыгімонта былі й іншыя прычыны падзьдзержаваць рэформацыю ў сябе дома,

---

[1]) Bukowski, „Dzieje reformacyi w Polsce“, I, 335, зацемка 3. [2]) Прыкл. шмат твораў Лютэравых было прывезена ў 1534 г. У гэты час шмат кнігароў было пададзена ў царкоўны суд за пашырэньне гэтых твораў (Любович, Исторія реформаціи в Польшѣ, цыт. тв. стар. 54). [3]) ib. стар. 48. [4]) Любавскій М. К. Очерк исторіи литовско-русскаго государства, выд. 2, м. 1915 г. стар. 217—218.

ужо асабістага характару. Не дарма вядомыя протэстанты Заходняе Эўропы пасьвячалі яму свае літаратурныя працы, пісалі лісты і знаходзілі сабе прыпынак у ягоным палацы [1]). Можа гэтымі асабістымі сымпатыямі да протэстанцтва Вялікага Князя, узгадаванага протэстанцкімі вучыцельмі, высьняецца й тое, што будучы з часам і польскім каралём, Жыгімонт-Аўгуст у 1553 годзе даваў даручэньне вядомаму дзеячу рэформацыі ў Польшчы, Лізманіні, паехаці ў Італію й Швайцарыю і пазнаёміцца на месцу з жыцьцём новых рэлігійных воласьцеў з мэтай рэформы царкоўнага жыцьця ў сваіх (Жыгімонта А.) гаспадарствах [2]). Ня можна забывацца й таго, што протэстанцтва прыходзіла ў Беларусь, як культурны кірунак, каторы знаходзіў праваслаўную асьвету зусім непрыгатаваную да адпору. Цёмным аказаваўся часта епіскапат, ня кажучы ўжо аб звычайным духавенстве. У сваім „Палінодіі“ Захар Капысьценскі проста кажа, што добры чалавек ня ішоў у духоўны стан, але „адно сьмецьце людзкое, галодныя й невукове ціснуліся ў рады яго“. Ведама, пры гэткіх умовах, прыніжалася ня толькі інтэлектуальная, але й моральная роўнь прыходзкага духавенства, так што ўжо „трудна было разазнаці, гдзе быў частшы прэсьвітэр: у карчме чылі ў царкве“ [3]). Паводле гісторыка Лукашэвіча, лютэранства не карысталася шырокай популярнасьцяй у Беларусі. Яно шырылася галоўна сярод Немцаў і мяшчан некаторых местаў, але сярод шляхты не знаходзіла сабе вернікаў. Магнаты напару (часамі), праўда, апякаваліся лютэранствам, але „з грашавых увагаў“, каб сэкулярызаваць царкоўную маемасьць. Лютэранскія цэрквы былі толькі ў Вільні, у Коўні, пазьней у дварох князёў Радзівілаў (біржанскае лініі) і ў рэзыдэнцыях некаторых іншых магнатаў.

Сьвядоцтва жаролаў аб росьце рэформацыйных ідэеў у Вялікім Княстве Літоўскім, думаем, трэба адносіць да кальвінства. Свае ўдачы ў Беларусі й Жмудзі кальвінства ў значнай меры мела дзякуючы роду Радзівілаў. Мікола Радзівіл Чорны прыняў кальвінства каля 1553 году. Некалькіх найвымаўнейшых і найшчырэйшых шырыцелеў кальвінства ён разаслаў па сваіх землях (Нясьвеж, Клецак, Берасьце й Вільня), а аднаго з іх (Марціна Чаховіча) ён паслаў навет у Швайцарыю, каб той беспасярэд-

---

[1]) К. В. Харламповіч, цыт. твор. стар. 145. [2]) Н. Любович, цыт. твор, стар. 157—159. [3]) Русск. Истор. Библ., т. IV, стар. 1057.

не пазнаёміўся з арганізацыяй кальвінскіх воласьцеў. За прыкладам Радзівіла ішлі ня толькі ягоныя сваякі (а было іх мноства), але й акалічная шляхта. Борзда „заражаным“ кальвінствам аказаўся цэлы сьцяг беларускіх родаў, як прыкладам: Кішкі, Ходкевічы, Глебовічы, Сапегі, Завішы, Вішнявецкія, Войны, Пацы, Абрамовічы, Валовічы, Агінскія, Зяновічы, Пронскія, Нарушэвічы, Дарагастайскія, Пузыны, Горскія, Грушэўскія і інш. Ведама, чужым кальвінству аставаўся просты народ, асабліва ў сваёй праваслаўнай часьці, каторая складала вялізарную большасьць. Шляхта старалася пашыраці кальвінства і сярод простага народу; каля 1555 году ў Беларусі й Жмудзі можна было бачыць значную лічбу „збораў“ кальвінскае веры. На кальвінскім саборы 1557 г. ў Вільні ўжэ было некалькі дзесяткоў кальвінскіх „міністраў“...[1]).

У сярэдзіне XVI в. ў кальвінстве робіцца рашчэп. Часьць шляхты і духоўных асобаў стала хінуцца да ўзноўленае навукі Арыя, прынесенае ў Польшчу Леліям і Фаўтам Соцынамі[2]). У Беларусі гэтая навука зьяўляецца каля 1558 г. Першым пашырыцелям гэтага вучэньня, званага напару унітарызмам і антытрынітарствам, а часьцей соцыніянствам, некаторыя лічаць Пётру Гонезя (з м. Гонезя)[3]). Але найвялікшым дзеячом-пашырыцелям антытрынітарства ў Беларусі быў Клецкі пастар Сымон Будны[4]). Новая сэкта вельмі борзда шырылася ў Беларусі, галоўным яе апякуном быў багаты беларускі магнат Ян Кішка з Цеханоўца (Сваяк Радзівілаў[5]). Ян Кішка меў 70 местачкаў і 400 вёсак; ягоная сяліба была прыпынкам усім антытрынітарам, ён склікаў „зборы“, закладаў школы й друкарні[6]).

Пётра Скарга ў сваім творы аб Берасьцейскім саборы 1596 г. цьвердзе, што соцыніяны ў вадным толькі Наваградзкім вайводзтве адняЛі да 650 праваслаўных цэркваў, і з 600 шляхоцкіх радоў гэтага вайводзтва асталося для праваслаўя не балей 16. Апрача Наваградзкага вайводзтва, соцыніянства ўдачна пашыралася ў вайводзтве Менскім, Віленскім і Віцебскім ды

[1]) Łukaszewicz, op. cit., t. I., p. 18 [2]) ib. p. 26., [3]) Lubieniecki, Historia Reform. Polonicae, Freistadt, 1685., [4]) Агляду дзеяльнасьці С. Буднага пасьвячана невялікая праца В. И. Плисса: „Симон Будный и его, сектанская и литературная деятельность в Литве и Западной Руси (Христ. Чтеніе 1914 г. верасень-кастрычнік месяцы), [5]) Łukaszewicz, op. cit., t. I, p. 27., [6]) Арх. Юго-Зап. Росс., ч. I, т. VI, прадмовы стар. 130.

на Валыні[1]) Не дарма за пашырэньне „арыянскае гэрэзі“ і навярненьне „людзей хрэсьцянскіх, так з рэліей грэцкае, яко і каталіцкае на сэкту арыянскую“ стала падаваць на суд соцыніянскіх міністраў і рымска-каталіцкае духавенства[2]). У XVII в. соцыніянства ў Беларусі значне слабее, найдалей яно дзержыцца у Вільні й Наваградку[3]), але толькі ў ваднэй Любчы соцыніянская воласьць дзяржыцца да 1655 г. Звычайна прычынаю ўпадку соцыніянства ў Беларусі лічаць сьмерць наймагутнейшага апякуна сэкты Яна Кішкі (1592 г.) і падзел ягоных багатых землеў паміж сваякоў (каталікоў і протэстантаў[4]).

З развоем протэстанцтва ў Беларусі прыходзіла і ажыўленьне школьна-асьветнае дзеяльнасьці і наагул культурнага жыцьця ў краі. Гэткім спосабам протэстанцкія школы стараліся здаволіць насьпелую й востра-адчуваную патрэбу ў школьнай асьвеце беларускага грамадзянства.

У гэтых школах шырака вучылі роднае мовы. З 1550 г. протэстанты пачалі закладаць у Беларусі навет жаноцкія школы[5]). Але мы павінны адцеміць, што называць беларускіх протэстантаў рупатліўцамі асьветы можна долькі з некаторым абмежаньням. Протэстанцкія „зборы“ не заўсёды прадпрыймалі даволі энэргічныя меры дзеля развою школьнае дзеяльнасьці царкоўных воласьцеў. Віцавочна, не даволі руліліся беларускія протэстанты аб асьвеце свайго духавенства, ня кажучы ўжо аб сьвецкай моладзі[6]). Крыху вяла йдзе работа і з выданьням у роднай мове Бібліі.

Пераходзім да агляду самых школаў. Нам вядомыя гэткія протэстанцкія школы ў Беларусі. Лютэранскія школы былі ў Вільні, Коўні, Мэрачы й Віцебску[7]). Кальвінскія школы былі ў Вільні, Біржах, Кейданах, Слуцку, Вэрнянах, Смаргонях, Глыбокім і Наваградку; соцыніянскія школы ў Беларусі былі ў Семяцічах (Бельскага пав.), а на Валыні — у Берасьцечку, Кіселіне і, напасьледак, у Гошчы, дзе вучыўся будучы прэтэндэнт на маскоўскі пасад Дзьмітра[8]).

[1]) Арх. Юго-Зап. Росс., ч. I, т. VI, прадмовы стар. 131., [2]) ib. № 234., [3]) Нясьвеская соцыніянская воласьць была зачынена каля 1586 г., Лоская так сама ў канцы XVI ст., Наваградзкая — у 1618 г. (Арх. Юго-Зап. Росс. ч. I, т. VI, прадмовы стар. 132)., [4]) ibidem.

[5]) Проф. Любович, цыт. твор, стар. 268, 295., [6]) К. В. Харлапович, цыт. тв., стар. 151. [7]) ibidem, стар. 153; прыр. Jaroszewicz, op. cit., III, p. 80. [8]) К. В. Харлампович, цыт. твор. стар. 165—166.

Гэты свой начырк мы абмежым драбязьнейшым вывучэньням віленскіх протэстанцкіх школаў.

Лютэранская школа ў Вільні была закладзена Абраамам Кульваю, што дастаў вельмі добрую асьвету. Ён вучыўся ў Кракаве, Віттэнбэрзе й Сіене (у Італіі). У 1538 г. ён, із ступеняй доктара абодвых правоў, вярнуўся ў Вільню, дзе к налецьцю (у наступным годзе) адчыніў школу на 50 вучнеў. Ідучы за ягоным прыкладам, кажа Лукашэвіч, лютэране энэргічна закладалі школы і ў іншых землях Беларусі пры „зборах“.[1]) Перашкоду пэдагогічнай дзеяльнасьці Кульвы зрабіла мясцовае каталіцкае духавенства. Біскуп Паўла Гальшанскі ў 1542 г. выпрасіў у Вялікага Князя дэкрэт, каторым Кульва паддаваўся біскупскаму суду. Ня хочучы меці магчымых няпрыемнасьцеў, Кульва выехаў з Вільні і ў 1543 г. аказаўся ўжэ рэктарам і профэсарам спачатку архіпэдагогіону, а далей і ўнівэрсытэту ў Кенігсбэрзе. Тамака-ж ён у 1546 г. і ўмер [2]).

У пяцьдзесятых гадох XVI ст. ў Вільні мы відзім і іншую лютэранскую школу. Лютэранскі вучыцель, пастар Ян Вінглер, зладзіў ля Нямецкае вул., у доме багатага купца Моршціна, царкву й школу. Але шчасьціла гэтай школе датуль, пакуль жыў Моршцін. Па сьмерці апошняга, з прычыны інтрыгаў рымска-каталіцкага духавенства, Вінглер мусіў уцякаць з Вільні. Мала маем дальшых весьцеў аб гэтай школе. У 1633 г. 20 ліпня Віленская лютэранская воласьць дастала гаспадарскі (Уладыслава) прывілей, каторым ёй дазвалялася дзіржаць „міністраў збаровых, міністраў школьных і ўбогіх шпітальных“, меці гращавыя сумы й дары, з асвабаджэньням дамоў школьных, збаровых, шпітальных і цмэнтарных ад пастоеў.[3]) У першай палове XVII ст. лютэранская воласьць у Вільні побач з мускай школаю мела і жаноцкую.[4])

Мікола Радзівіл Чорны, што апекаваўся кальвіністамі, імкнуўся ня толькі да пашырэньня кальвінства, але й да развою школьнае асьветы ў дусе гэтага вучэньня. Дзеля прыгатовы вучыцялёў - кальвіністаў, Радзівіл устанавіў у заграгічных унівэрсытэтах некалькі стыпэндыеў[5]), а ў сябе, дома, некалькі шко-

---

[1]) Łukaszewicz, „Dzieje kościołów“, op. cit. t. II, p. 156; Bukowski, op. cit., I, p. 341—342. [2]) Łukaszewicz, op. cit. t. I, p. 7—8; Харламповіч, цыт. твор., стар. 152. [3]) Арх. Сборн. III, № 63. [4]) К. В. Харламповіч, цыт. твор., стар. 153. [5]) Jaroszewicz, op. cit., III, 34.

лаў. У Вільні кальвінская школа была адчынена разам за „зборам“ у доме Гаштольда, што дастаўся ў спадчыне Радзівілу па сьмерці ранейшага гаспадара (на рагу Вялікае й Сьвята-Янскае вул.), проці касьцёла Сьв. Яна. Школа борзда разьвівалася і колькасна і якасна. У сярэдзіне 60-х гадоў XVI ст. яна стала хінуцца да ўпадку, як з прычыны нябыцьця добрых вучыцялёў, так і нястачы сродкаў[1]).

Стараньні віленскіх кальвіністаў падзьдзержыць школу не ўдаліся. Апрача таго, на кальвінскую воласьць сунулася страшная хваля езуіцкага ордэну. У сям'і Радзівілаў стаўся рэлігійны рашчэп. Чатыры сыны Мікалая Радзівіла Чорнага прынялі каталіцтва, а малодшы з іх Юры—навет стаў духоўным. Памалу ў чысьленых дварох Радзівілавых кальвінскіх пастараў выціскаюць каталіцкія „князі“ (ксяндзы). Крыху зьдзержаваў каталіцкую рупатлівасьць сваіх сыноўцаў Мікола Радзівіл Рыжы (віленскі вайвода). Ён, навет, аддаў віленскай кальвінскай воласьці свой пляц у Вільні, ля Пакроўскае царквы на пастаўленьня на ім царквы й школы[2]). Настрашанае рымска-каталіцкае духавенства із свайго боку выступіла з опозыцыяй. У вадказ на жальбу р.-каталіцкага біскупа Валяр'яна гаспадар (Сьцяпан Батура) у лісьце сваім да Мікалая Радзівіла становўка забараніў пад страхам грашавое кары (10 тысячаў коп літоўскіх грошаў) ставіць публічна або прыватна новыя сялібы на школы ці новыя зборы[3]). Але кальвіністыя не апушчалі рук, яны рупна дамагаліся дазваленьня на будоўлю „збору“ на дараваным пляцы[4]). Напасьледак, яны дапялі свайго. Школа была пастаўлена, але ёй адразу прышлося конкураваць з новаадчыненай віленскай акадэміяй езуіцкай. Прышлося віленскім кальвіністым падумаць аб ператварэньні свае школы ў унівэрсытэт. Шмат што ўжо было зроблена дзеля гэтага. Забраныя былі грошы і запрошаныя профэсары з краю і суседніх гаспадарстваў (Польшчы і нямецкіх землеў). Лішне казаць аб тым, што р.-каталіцкае духавенства проста ашалела ад гэткіх кальвінісцкіх праектаў. Вядомы ўжо нам Юры Радзівіл і папескі нунцый Аннібал стараўся перад гаспадаром Жыгімонтам III аб забароне кальвіністым арганізаваць унівэрсытэт у Вільні, бо гэ-

[1]) Łukaszewicz, „Historya szkół“, op. cit., I, p. 120; К. В. Харлампович, цыт. твор, стар. 154. [2]) Акты Вилен. Археогр. Ком. XX, NN 27, 28. [3]) ibidem. т. VIII, № 1. [4]) Арх. Сборн. т. III, № 29.

та, паводле іх, выкліча заўсёдныя стычкі паміж студэнтамі кальвіністымі й гадунцамі езуіцкае колегіі[1]).

Лукашэвіч думае, што кальвінская школа ў Вільні складалася з 5 клясаў і карысталася вялікай популярнасьцяй сярод акалічнае шляхты. У віленскую кальвінскую школу езьдзіла шляхоцкая моладзь дзеля дастаньня асьветы навет з Польшчы, Прусаў, Інфлянтаў, Курляндыі і г. д.[2]).

Беларускія кальвіністыя рупіліся й далей аб адчыненьню вышшае школы ў Вільні[3]), але гэтаму перашкаджаў усё той-жа езуіцкі ордэн. На конкурэнцыю з езуіцкай колегіяй з часам у віленскай школы кальвінскай не ставала сілы, тым болей, што хаданьне вялося ня культурнымі, а грубымі фізычнымі спосабамі. У 1591 г. быў паруханы й спалены збор[4]). Думаем, што пры гэтым уцярпела й школа. У 1599 г. ізноў была зроблена спроба пагрому над кальвінскім пастарам і вучыцелям[5]). Вялікую шкоду рабілі езуіты кальвінскай школе яшчэ тым, што перацягавалі да сябе ейных вучанікаў. Сярод самых кальвінскіх „міністраў“ борзда праявілася цяга да лацінства. У 1611 г. фанатычнымі езуіцкімі вучаньнікамі быў спалены школьны будынак, збор і гасподы для вучыцялёў і міністраў (кальвінскіх духоўных). Часткава згарэла, а часткава была расьцягнена школьная бібліотэка; былі зьбіты й жыхары спаленых будынкаў. Гэта было натолькі абураючым гвалтам, што езуіты ўважалі неабходным даводзіць адумысловай брашураю сваё неўчасьце ў гэтай справе[6]). Жальба каралю кальвінскага сэньёра (Швайкоўскага) рэзультатаў ня мела; не памог і афіцыяльны протэст на сойме Януша Радзівіла проці несправядлівых адносінаў ураду да протэстантаў. Адзіне чаго ўдалося дабіцца, — гэта дазваленьня на адбудову спаленых царкоўных і школьных будынкаў. Дык, ападаткаваўшыся, кальвіністыя ў 1614 г. паставілі нанова школьны будынак з бурсаю пры ім і для вучыцялёў і для гадунцоў[7]).

Агульнае палажэньне рэлігійных справаў у Беларусі й Польшчы адбілася й на стане віленскае кальвінскае школы. Кальвіністы ў вялікай лічбе пакідаюць сваю веру на карысьць

[1]) Łukaszewicz, Dzieje.., op. cit., t. 1, p. 62—63. [2]) Łukaszewicz, Historja szkół, I, 375. [3]) К. В. Харламповіч, цыт. твор, стар. 156. [4]) Monumenta Reformationis Poloniae et Lithuaniae, Wilno, 1911, p. 60—91. [5]) Baliński, Dawna Akademja Wileńska, p. 98. [6]) Łukaszewicz, Dzieje..., op. cit., I, p. 147—148, прыр. т. II, p. 164. [7]) ibidem, t. II, p. 163 — 164.

р.-каталіцтва, вуніі і навет соцыніянства[1]). Жаролы паказуюць упадак навуковага развою і сярод вучыцялёў кальвінскіх школаў. Соймавы дэкрэт 1640 г. канчальна зьністожыў („скасаваў на заўсёды“) віленскую кальвінскую школу[2]).

Нутраная арганізацыя беларускіх протэстанцкіх школаў павінна быць пастаўлена ў сувязь з тымі новымі школамі, што былі створаныя ў Нямеччыне ў пару рэформацыі. З гэтага мы ня маем дзівіцца, бо пэдагогічны й адміністрацыйны склад гэтых школаў папаўняўся галоўна людзьмі, што скончылі протэстанцкія ўнівэрсытэты або людзьмі нямецкага паходжаньня.

Пастановы лютэранскіх, кальвінскіх і соцыніянскіх сабораў, што былі пэрыёдычна ў закраненую пару, давалі агульны характар протэстанцкім школам у Беларусі. Кірунак вучэньня й узгадаваньня ў іх характарызуецца перавагаю рэлігійнага элемэнту. Беларускі язык вельмі прыймалі пад увагу беларускія протэстанты, ужывалі яго так сама ў сваёй арыгінальнай і перакладанай літаратуры[3]).

Некаторыя гісторыкі адзначаюць і ад'емныя бакі пэдагогікі ў протэстанцкіх школах. У іх гадавалася пачуцьцё нетолеранцыі, палярушыўся народны дух на карысьць якогась космополітызму, патрэбы веры ставіліся вышэй за патрэбы гаспадарства. Прыводзячы гэтую ацэну, нельга не адцеміць і дадатняе ролі протэстанцкіх школаў: яны прымусілі парупіцца аб сваіх школах ня толькі каталіцкае, але й праваслаўнае духавенства, а самі прыгатавалі не адно пакаленьне асьвечаных на тагачасны час людзёў і адпаведную літаратуру.

(Далей будзе).

Хв. ІЛЬЛЯШЭВІЧ.

* * *

На турэмнай глебе сьмягнуць
Краскі - кветкі маладыя...
Яны сонца, сьвету прагнуць,
Просяць росы веснавыя...

Сьмягну я ў турме, як краскі,
Жду, калі ўжо пабяжыць
Кроў з грудзей, што просяць ласкі,
Што жадаюць, прагнуць жыць.

16.VIII.27.

---

[1]) К. В. Харлампович, цыт. твор. стар. 157—158. [2]) Łukaszewicz, Dzieje... t. II, p. 165. [3]) Аб гэтым драбязьней у К. Харламповіча, цыт. твор, стар. 176.



Зьезд Т-ва Беларускае Школы Слонімскага павету ў м. Слоніме 16 кастрычніка сёлета.

Д-р Я. СТАНКЕВІЧ.

# Беларуская Акадэмічная Конфэрэнцыя 14.—21.XI.1926. і яе працы дзеля рэформы беларускае абэцэды й правапісу *).

(*Агульны агляд*).

## Справа рэформы беларускае абэцэды.

У справе рэформы беларускае абэцэды (кірыліцкай) прачытаў рэфэрат правадзейны сябра Інбелкульту, Язэп Лёсік, і проф. А. Растаргуеў.

Язэп Лёсік выказуецца процi пераходу на лацініцу, а патрэбу рэформы кірыліцы гэтак мотывуе: „Папершае, наша цяперашняя азбука не адпавядае ўва ўсіх пунктах гукавому пісьму; падругое, у нашай цяперашняй азбуцы ня ўсё адпавядае звычайнай практычнасьці; патрэцяе, наша цяперашняя азбука ня мае ўласнага твару, што мае не малое значэньне, калі нашы ворагі заўсёды тыкаюць пальцам, што ў нас нічога няма, што мы ўсё запазычаем, усё пераймаем ад нашых суседзяў“.

Проф. Растаргуеў так сама процi ўвядзеньня лацініцы як агульна-беларускае абэцэды. Аб патрэбе рэформы кірыліцы ён гэтак заявіў: „Пытаньне аб рэформе беларускае азбукі — адно з асноўных пытаньняў сучаснага культурнага жыцьця Беларусі; гэта пытаньне вымагае безадкладнага вырашэньня. Беларуская мова да гэтага часу карысталася расійскай азбукай з нязначнымі яе зьменамі. Гэтыя зьмены ў значнай ступені, за выключэньнем ў,—чыста знадворнага характару, і такім чынам беларуская азбука не прыстасавана да асаблівасьцяй беларускай мовы“.

Нельга не згадзіцца з вышменаванымі мотывамі абодвых рэфэрэнтаў; аб гэтым мы пераканаемся ніжэй.

Абодва рэфэрэнты запрапанавалі замест кірыліцкага *й* увесьці лацінскае j (замест напр. *мой* пісаць — *моj)* і ўжываць гэтае *j* перад *а*, *о*, *у*, *е*, *і* там, гдзе перад гэтымі самагукамі ёсьць сугук (зычны, сугалосны гук) *j* (*й*); прыкладам, замест дагэтулешняга пісаньня — мая, мае, маей, маю, маім, пісаць: маjа, маjе, маjоj, маjу, маjім. Але там, дзе *я*, *ю*, *е*, ё, *і* абазначаюць мякчыню стаячага беспасярэдне перад імі сугуку, іх пропанавалі пакінуць, г. зн. пісаць, як і дагэтуль пішам, гэтак: цяжка, сюды, сена, сёлета, сіла і да г. пад.

*) Глянь кн. V „Род. Гонеў“.

Абодва рэфэрэнты пропанавалі абазначаць сугукі *дз* й *дж* не дзьвюма літарамі, як робім дагэтуль, але аднэй. Пры гэтым Я. Лёсік пропанаваў *дз* й *дж* замяніць гэтак: „Яшчэ ў старой азбуцы-кірыліцы была асобная літара для абазначэньня гуку *дз*. Гэта даўнейшая літара падобна крышку на сучасную цыфру *З*, калі яе напісаць вот так: З. Гэта для друку, а на пісьме яе можна пісаць, як літару *з*, толькі з такім рысункам уверсе, як мы робім у літары *ч*, калі яе пішам. Для *дж* можна дапасаваць гэтую самую літару, толькі з маленькаю рыскаю, у форме вілачкі, над літараю як у друку, так і на пісьме...

„А самае лепшае—кажа далей Я. Лёсік—каб ня ўводзіць зусім новых і незнаёмых літар, пералаваць гук *дз* у друку літарай д з вілачкамі ўверсе, а гук *дж*—літараю *ж* з вілачкамі ўверсе, а на пісьме *дз* азначаць пісанаю літараю *з* толькі з такім напісаньнем зьверху, як і пісанай літары *ч*, а *дж* —звычайнаю пісанаю літараю *ж* з вілачкамі зьверху“.

Проф. Растаргуеў для замены літараў *дз* й *дж* ліча найбалей адпаведнымі літары сэрбскага альфабэту — для *дз* тую літару, што ў Сэрбаў абазначае мяккое *дж*, а для *дж* тую, што ў Сэрбаў абазначае *ч* мяккое. Першая літара падобная да лац. *h* аберненага дагары, а другая да такога-ж *h* з апушчанай другой часьцяй уніз і ўлева.

Апрача таго Я. Лёсік пропанаваў замест *э* ўжываць літару, каторая ёсьць *э* аберненым у правы бок—є, а замест *ы* ўжываць *и*.

Проф. Растаргуеў, апрача таго пропанаваў усе мяккія сугукі абазначаць літарамі із значком унізе (францускі знак sédille); гэткім парадкам ня трэба было-б зусім ужываць ня толькі ь, але й літараў *я*, *ю*, ё, *е*. Але рэфэрэнт сам зазначыў, што гэтую яго апошнюю пропозыцыю ў цяперашнім часе немагчыма правесьці ў жыцьцё, дык яна й не разглядалася на конфэрэнцы. Памойму гэтую пропозыцыю ня толькі цяпер *немагчыма* рэалізаваць, але й ніколі гэтае апошняе рэформы рабіць ня *трэба* будзе. Пры мякчыні беларускіх сугукаў гэтую мякчыню так часта прышлося-б абазначаць значком у нізе, што гэта ня толькі перашкаджала-б у пісаньню, але й значок, вельмі часта ўжываны, перастаў-бы выдзяляць абазначаныя ім мяккія сугукі. Дзеля мякчыні беларускіх сугукаў нашая абэцэда была-б ідэальнай, каб, пакінуўшы дзеля абазначэньня мякчымі сугукаў *я*, *ю*, *е*, ё, *і*, мякчыню тых сугукаў, што з самагукамі ня зьліваюцца, абазначаць значком

унізе ці ўверсе, або мо' адных унізе, а другіх уверсе. Дык адкінулі-б толькі *ъ*.

Пропозыцыі рэфэрэнтаў разглядаліся на агульнай зборцы Конфэрэнцыі і ў графічнай комісыі.

Пропозыцыю Лёсікаву аб ужываньню *є* й *и* замест *э* й *ы* Конфэрэнцыя адхінула і добра зрабіла, бо нямаш жаднае патрэбы рабіць гэткае рэформы, замена гэткая ўвяла блытаніну і была-б шкоднай.

Галоўны мотыў дзеля замены *дз* й *дж* асобнымі літарамі выстаўляўся на Конфэрэнцыі, дый наагул ёсьцека, адзін. Паўтару яго словамі Растаргуевымі „азначэньне гукаў, хоць-бы і складаных па сваёй артыкуляцыі, дзьвюма літарамі — зьява непажаданая і павінна быць ухілена. Гэтыя гукі (*дз* й *дж*), як і такія самыя складаныя па сваёй артыкуляцыі гукі, г. зн. як і глухія афрыкаты *ц* й *ч*, павінны азначацца ў беларускай азбуцы асобнымі літарамі, якія з гэтай мэтай трэба ўвесьці ў азбуку“.

Тэорытычна гэта правільна, але ў практыцы дзеля гэтага замяняць *дз*, *дж* асобнымі літарамі не заўсёды можна і вось чаму. Гукі *дз* й *дж* складаюцца з двух элемэнтаў—*д* й *з* ды з *д* й *ж* з перавагаю *з* й *ж*, ці, як добра паказаў Я. Карскі, $\frac{д+зз...}{2}$ (Беларусы т. I-1, стар. 18 - 19).—Кожны народ стараецца захаваць асаблівасьці свае мовы; нельга сабе прадставіць такога сьвядомага народу, які хацеў-бы іх траціць, бо ён быў-бы частковым самаўбіўцай. Калі б беларуская мова ня была пад уплывам чужых моваў, дык вымова гукаў *дз* й *дж* асталася-б пры ўсялякім іх абазначэньню. Пры цяперашнім уплыве на нашую мову, асабліва на мову нашае інтэлігенцыі, мовы расейскае, нямаючае *дз* й *дж*, і часткава мовы ўкраінскае, нямаючае *дз*, гэтыя асаблівасьці будуць забясьпечаны ад утраты пры абазначэньні іх літарамі *дз* й *дж*. Ці будуць яны забясьпечаныя пры іншым абазначэньню, гэта пытаньне. Дзеля гэтага зусім зразумелай ёсьць нязгода ўсіх учасьнікаў Конфэрэнцыі абазначаць *дз* літарай *д* з вілцамі ўверсе і гук *дж* літарай *ж* з такімі-ж вілцамі ўверсе; гэтакая нязгода дыкжэ й была мотывавана ўсімі галоўна й наўперад небясьпечнасьцяй утраты гэтых гукаў пад чужым уплывам. Аб гэтым цьвёрда заявілі ў сваіх прамовах У. Чаржынскі, С. Некрашэвіч, проф. П. Растаргуеў, С. Катовіч, Л. Цьвяткоў і інш. Проф. П. Растаргуеў заявіў: *„хочаце сьцерці гэтую асаблівасьць (дзеканьне) бела-*

*рускай мовы—можаце ставіць дыякрэтычны значок. Хочаце захаваць яе—трэба ўвесьці асобныя літары"*. І толькі Я. Лёсіку сваім рэформеным захапленьню не дабачыў гэтае небясьпечнасьці. Дык няма дзіва, што графічная комісыя 14-ма галасамі проці 4 уводжаньне значкоў над *д* й *ж* дзеля абазначэньня гукаў *дз* й *дж* адкінула, а за комісыяй адкінула й уся Конфэрэнцыя.

Абазначэньне гукаў *дз* й *дж* літарамі *д* й *ж* із значкамі над імі проста *пхала-б* да страты гэтае нашае важнае асаблівасьці. Але ці абазначэньне гэтых гукаў замест дагэтулешніх літараў *дз*, *дж* іншымі, асобнымі літарамі не дапушчала-б да сьціраньня гэгых асаблівасьцеў? Мушу сказаць, што не, бо пры ўплыве на нашую інтэлігенцыю мовы расейскае ў розных мясцох, а навет у тым самым месцу, розныя людзі вымаўлялі-б уведзеныя новыя літары для дз й *дж* розна, толькі з большым або меншым прыбліжэньням да гуку *дз*, *дж*; а пры такіх хісьлявых, неадпаведных вымаўляньнях запанавала-б напасьледак вымаўляньне тое, што знайшло-б падзьдзержку з боку — уплывам расейскае вымовы. Гэта даволі разумела й выказала часьць сяброў Конфэрэнцыі (С. Некрашэвіч, М. Грамыка і інш.) пропонуючы абазначаць гукі *дз*, *дж* лігатурамі (зьлітымі літарамі) з *д* й *з*, з *д* й *ж*. Пэўне што лігатуры (комбінаты з *д* й з, з *д* й ж) на значны часьць забясьпечылі-б гэтую асаблівасьць ад сьціраньня пад чужым уплывам. Лігатуры толькі мелі-б мець ясныя складовыя элемэнты (*д*, *з*, *ж*), а не такія, як гэта прапанаваў М. Грамыка або Я. Бялькевіч. У вапошняга, здаецца, нішто лігатура для пісанага вялікага й малога значка для абазначэньня гуку *дж*, але ўжо для пісанага значка для гуку *дз* нядобрая, бо ў вялікай літары зусім падобная да вялікага пісанага *В*, а ў малой да *з*; друкаваныя-ж лігатуры для *дз* й *дж* зусім нягодныя, бо іх разумелі-б як адно *д*. Мне здаецца, што ня трэба выдумляць асобных новых значкоў для пісьма й друку, але літары пісаныя могуць быць адначасна й друкаванымі. Але лігатура, як добра зацеміў проф. П. Расторгуеў, астаецца такой толькі да часу, а потым так зьліваецца, што нельга разазнаць ейных часткаў складовых. Дзеля гэтага й літары-лігатуры ня могуць забясьпечыць ад сьціраньня абазначанае імі асаблівасьці.

Дык астаецца адно: дзеля захаваньня гуку *дз* й *дж* абазначаць іх пры помачы дзьвюх літараў—*дз* й *дж*, як робім дагэтуль.

Заганы абазначэньня гукаў *дз* й *дж* дзьвюма літарамі — вельмі малыя. Ня можа быць хоць крышку сур'ёзнай заганаю тое, што „Калі сустракаешся з людзьмі, якія павінны перайсьці на беларускую мову, яны заяўляюць аб труднасьці для іх *дз, дж.* Яны гавораць, што, калі-б ня было гэтых *гукаў* (подчырк мой—Я. С.), дык можна-б было ўспрыняць беларускую мову значне лягчэй“ („Працы...“ стар. 156), бо калі гукі (зьвярнеце ўвагу — *гукі!) дз, дж* ёсьць ім перашкодай, дык гэткія абруселыя ці расейскія панове толькі тады зробяць ласку згадзіцца на беларусізацыю, калі ў ёй нічагусенькі беларускага ня будзе. Ня можа быць таксама прычынаю дзеля замены *дз, дж* новымі літарамі тое, што ў тых словах, дзе *д* адносіцца да прыстаўкі, а *з* ці *ж* да караня (адзначыць, паджары) гэтыя літары вымаўляюцца асобне, бо хто дзеля некалькіх слоў будзе рабіці рэформу абэцэды; апрача таго, у гэткіх прыпадках, каб паказаць, што *д* трэба вымаўляць асобне ад *з* ці *ж*, можна было-б згадзіцца ставіць па *д* значок' уверсе (ад'значыць).

Дзеля ўсяго вышсказанага трэба спадзявацца, што хоць Конфэрэнцыя пастанавіла абазначаць гукі *дз, дж* асобнымі літарамі, але на канчальным разглядзе будзе пастанова абазначаць гэтыя гукі дзьвюма літарамі *дз* й *дж*, як робіцца дагэтуль.

Пропозыцыя проф. П. Растаргуева аб замене *дз, дж* асобнымі літарамі сэрбскае абэцэды, апрача агульнай у ёй заганы з іншымі, мае яшчэ тую загану, што адзін прапанаваны сэрбскі значок аднолькавы з лацінскай літарай *ћ*, а другі да гэтае літары вельмі падобны, што пры ўжываньню ў нас часткава лацінскае абэцэды перашкаджала-б пры чытаньню й пісаньню. Гэта было й зазначана на Конфэрэнцыі. Пропозыцыя Растаргуева аб замене літараў *дз, дж* асобнымі сэрбскімі літарамі была прынята ў графічнай комісыі большасьцяй двух галасоў (за—10, проці—8).

Конфэрэнцыя пастанавіла замест *й* увясьці лацінскую літару *j*. Як ведама, ужываныя намі цяперака кірыліцкія літары *я, ю, е,* ё, *і* маюць падвойнае значэньне: пасьля сугукаў (зычных, сугалосных), яны абазначаюць мякчыню беспасярэдне стаячых перад імі сугукаў (прыкладам у словах—цяжар, сьцюжа, серада, сіні і да г. п.) а на пачатку складу абазначаюць ja, jу, jе, jо, jі, (мая, маю, маім=маjа, маjу, маjім іг. д.). Дык Конфэрэнцыя пастанавіла, каб на пачатку складу пісаць так, як вымаўляецца, г. зн. ja, ju, je, jo, ji замест дагэтулешніх

*я*, *ю*, *е*, ё, *і*, а літары я, ю, е, ё пакінуць дзеля абазначэньня мякчыні сугукаў.

Аргумэнты дзеля гэтае пастановы былі прыведзеныя гэт'кія:

1. *і* (адзіночнаму), абазначаючаму самагук, адпавядае *j*, абазн. сугук (прыкладам у словах—jіх, маjіх, паjіць), каторым *(j)* адначасна ўжо ляпей абазначаць і *і* нескладовае (моj, ваjна і да г. п.).

2. *j* ужываецца пры навуковых дасьледзінах.

3. *й* на пісьме падобнае да *и*, падчыркненага зьверху, тады як *j* лёгка пазнаецца на пісьме і мяшаць яго з іншымі літарамі на пісьме і ў друку немагчыма.

4. *j* можна пісаць перад *а*, *у*, *е*, *о*, *і* на пачатку складу, замест *я* і г. д, а *й* пісаць было-б ня добра дзеля ягонае шырыні.

На пачатку складу важна пісаць jа, jу, jе, jо, jі замест дагэтулешніх *я*, *ю*, *е*, ё, *і*, бо гэтым мы кожны гук абазначаем асобнай літараю, што дасьць нам магчымасьць перадаваць на пісьме некаторыя беларускія асаблівасьці, каторыя пры цяперашнім абазначэньню не перадаюцца (можам абазначаць j у словах:—jіншы, jімя, jіскра і да г. п.), а, з другога боку, палягчыць вучыцца чытаць дзяцём. Пісаньне j на пачатку складу перад *а* і г. д. палягчае ў школе вучыцца граматыку. Прыкладам ведаем, што аснова слова не мяняецца, а тымчасам, калі пішам — край, краю, краі, — выглядае як-бы аснова мянялася; ведаем, што ў творным склоне адз. л. імёнаў жан. часамі адпадае канцавое *у*, але гэтага зусім ня відаць пры пісаньню *лавай—лаваю.* Зусім інакш будзе пры ўжываньню j: краj, краjу, краjі; лаваjу—лаваj.

Закіды аднаго вучыцеля—учасьніка Конфэрэнцыі—што падобнае ўжываньне j непэдагогічнае, толькі паказуюць, што няправільнае дагэтулешняе абазначэньне зьбівае з толку навет вучыцялёў.

Пішучы *j* перад *а у* і г. д. мы не патрабавалі-б ужываць значка ' уверсе дзеля паказаньня, што сугуку ня трэба зьліваць, чытаючы, з наступным самагукам (замест б'ю, п'ю, сям'я, сям'і пісалі-б—бjу, пjу, сямjа, сямjі).

Канчаючы аб рэформе абэцэды, хачу адцеміць, што, калі-б мы ўвялі значок мякчыні для мяккіх сугукаў, стаячых перад сугукамі або на канцы слова, і пакінулі *я*, *ю*, *е*, ё. *і* дзеля абазначэньня мякчыні сугукаў, стаячых перад самагукамі, а, з дру-

гога боку, увялі j замест *й* і пісалі ja, jy, je, jo, ji на пачатку складу замест *я*, ю, е, ё, *і*, дык мелі-б запраўды даскональную для свае мовы абэцэду. Даскональную для нашае мовы рэформу кірыліцы можна й зрабіць толькі карыстаючыся літарамі *я*, *ю*, ё, *е* дзеля абазначэньня мякчыні стаячых перад імі сугукаў, і дарма проці гэтае ролі менаваных літараў выступалі некаторыя ўчасьнікі Конфэрэнцыі.

Чытаць надрукаванае ці напісанае новай абэцэдаю навучыліся-б даволі борзда. Але, ня гледзячы на гэта, прыймаючы пад увагу, што толькі ў Радавай Беларускай Рэспубліцы ёсьць беларускія школы, а ў Смаленшчыне, Чарнігаўшчыне, Пскоўшчыне і інш. ды ў Беларусі Заходняй іх няма або блізу што нямашака, адразу цяперака ўсяе гэтае рэформы правесьці ў жыцьцё было-б немагчыма і прыщлося-б абмежыцца пакуль што ўвядзеньням замест *й* літары *j*, ужываючы яе перад *і* на пачатку складу (мajіх пajіць), але ня ўжываючы перад самагукамі замест *я*, *ю*, *е*, ё.

Пакуль у нас побач з кірыліцаю ўжываецца часткава й лацініца—а будзе яна ўжывацца прынамся яшчэ значны час— Конфэрэнцыі трэба было разгледзіць таксама й рэформу беларускае лацініцы. Дык шкода, што Конфэрэнцыя гэтай справаю не занялася. Рэформа беларускае лацініцы лёгкая: пасьля замены ўжываных раней польскіх cz, sz, ż ужыванымі ў навуцы літарамі č, š, ž, і ўвядзеньню ŭ для нескладовага у, астаецца цяпер замяніць польска-нямецкае w лацінскім v, як гэта зрабілі Ліцьвіны й Чэхі. Што v лепшае за w, гэта відавочна: яно займае на палову меней месца. Увядзеньне v канчальна прыдало-б нашай лацініцы беларускі характар.

(Далей будзе).

МЯЦЕЛІЦА.

* * *

Чыста паднябесьсе,
Сонца з неба льлецца,
Птушак хор у лесе
Зычна раздаецца.
Зашумелі нівы
Жыта шапаценьням
І душу ўзбудзілі
Ціхім лятуценьням.
Узьняліся мары,
Думы - нябыліцы,
Як-бы тыя хмары
Падчас навальніцы...

Вецер ціха вее,
Каласочкі клоніць
І ў душу памалу
Сум нязнаны гоніць.
Ой ты маё жыта,
Жыта зеляное,
Не пацешыш шчасьцям
Бедака за тое,
Што цябе ён сеяў
І рабіў загоны —
Хтось другі бяз працы
Забірае плёны.

ПРАВАСЛАЎНЫ.

# Забытая справа.

Мусіць, навет, ня ўсе Беларусы ведаюць, што ў Праваслаўнай Духоўнай Сэмінарыі ў Вільні выкладоваю моваю ёсьць мова польская. А тымчасам гэта так. Чаго нельга было спадзявацца, чаго нельга было сабе навет прадставіць, сталася некалькі год назад. Некаторыя праваслаўныя епіскапы і праўленьне сэмінарыі, узгадаваныя маскоўскім урадам у нявольніцкім духу, пагаліліся на польскую матар'яльную помач і згадзіліся тады на ўвядзеньне ў Сэмінарыю польскай мовы як выкладовай.

Але полёнізацыя Сэмінарыі вельмі нягодна адбілася на ейным самачачуцьцю праваслаўным і на адносінах да яе праваслаўных вернікаў. Паўтара міліёна праваслаўных Беларусаў Заходняе Беларусі, ня кажучы аб Беларусах усходніх, зразумелі полёнізацыю сэмінарыі, як адступленьне яе ад сваіх заданьнеў. Каму патрэбна была полёнізацыя сэмінарыі? Ці яна патрэбна была Праваслаўнай Царкве ці ейнаму жывому целу—праваслаўным вернікам-Беларусам? Ані аднаму, ані другому полёнізацыя не патрэбна. А калі так, дык яна патрэбна камусь трэцяму, чужому. Гэтым трэцім была полёнізацыйная палітыка польскага ўраду Грабскага, каторую вядзе далей цяперашні польскі ўрад. Дык, значыцца, Сэмінарыя побач із сваім прыродным, старым заданьням — прыгатовы пастыраў на абслужаваньне рэлігійных патрэбаў праваслаўнага насяленьня і пашырэньня праваслаўнай веры—дастала яшчэ някшае заданьне—полёнізаваць праваслаўнае духавенства, а праз яго і праваслаўны беларускі люд.

Як відзім, гэтае другое заданьне ня толькі чужое, але й шкоднае нашаму народу, а дзеля таго мы павінны з ім хадацца. Дагэтуль ходаньне з полёнізацыяй Праваслаўнай Духоўнай Сэмінарыі ў Вільні было пасыўным. Выказавалася яно, апрача звычайных нараканьнеў і абурэньнеў, у тым, што праваслаўныя з кожным годам усё меней і меней пасылаюць сваіх дзяцей у Сэмінарыю. Сёлета ў другой клясе Сэмінарыі ёсьць 8 вуч., а ў першай 7. Але пара ўжо перайсьці і да актыўнага ходаньня (барацьбы); тым балей, што й вышшае праваслаўнае духавенства, здаецца, схамянулася й зразумела, што нельга служыць Богу й „мамоне“ (полёнізацыі). На дамаганьне гэтага духавенства, у Праваслаўную Сэмінарыю ў Вільні сёлета ўвосень уведзены новы статут, паводле каторага існуе сэмінарыя Крэменец-

кая. Паводле новага статуту, у Сэмінарыі тое-сёе папраўіцца на карысьць духоўных заданьнеў ейных. Але восьмы пункт статуту, у каторым кажацца, што палова лекцыеў мае быць паўкраінску (а ў нас было-б пабеларуску) у Віленскую Сэмінарыю ня ўведзены, і надалей астаецца выкладовай моваю вылучна мова польская. Няўвядзеньням у Сэмінарыю выкладаньня пабеларуску прынамся паловы лекцыеў польскае Міністэрства Асьветы і Вераў і вышшае праваслаўнае духавенства ясна паказалі, што яны зусім ня лічацца з патрэбамі беларускага праваслаўнага насяленьня. Але тыя, дзеля каго існуе Праваслаўная Сэмінарыя ў Вільні, г. зн. беларускае насяленьне Заходняе Беларусі, павінны прымусіць з сабой лічыцца. Акцыя ў гэтай справе ўжо пачата, трэба толькі яе весьці далей.

Прыводзім тут рэзалюцыю, каторую ў гэтай справе.

Галоўная Ўправа Т-ва Беларускае Школы 27 кастрычніка аднагалосна прыняла і 28 кастр. паслала Мітрапаліту дзеля разгляду на Свяшч. Сынодзе Праваслаўнае Царквы ў Польшчы. Вось гэтая рэзолюцыя:

Галоўная Ўправа Таварыства Беларускае Школы сьцьвярджае: 1) што Дзяржаўная Праваслаўная Духоўная Сэмінарыя ў Вільні гатуе духоўных пастыраў для епархіеў Віленскай, Горадзенскай і Палескай, праваслаўныя вернікі каторых складаюцца з Беларусаў, 2) што праваслаўнае насяленьне ў вялізарнай сваёй большасьці нацыянальна-сьвядомае, што выяўляецца ў дамаганьні гэтага насяленьня беларускай школы і беларускай проповедзі ў Царкве, 3) што ўрадаваньне будучых пастыраў, узгадаваных у роднай мове й культуры зблізіць міран да духавенства і тым узмацніць нашую Царкву.

Дзеля прыведзеных мотываў, Галоўная Ўправа Т-ва Беларускае Школы, як прадстаўніца культурных патрэбаў беларускага насяленьня вышменаваных епархіеў, лічачы, што ў Праваслаўнай Духоўнай Сэмінарыі ў Вільні выкладовaю моваю павінна быць мова беларуская, пастанаўляе прадставіць на разгляд Сьвяшчэнага Сыноду свае пагляды ў гэтай справе і прасіць, каб Сьвяшчэны Сынод неадкладна прыступіў да рэалізаваньня гэтае насьпелае справы, пераводзячы хаця-б палову прадметаў на беларускую мову ў Віленскай Праваслаўнай Духоўнай Сэмінарыі яшчэ ў сёлетнім школьным годзе.

Падобныя рэзолюцыі павінны выносіць так самы Зьезды, Адзьдзелы й Гурткі Т-ва Беларускае Школы.

Цэнтр. Ўрад Т-ва „Белр. Інстытуту Гаспадаркі й Культуры“ чамусьці дагэтуль маўчыць у гэтай палючай справе, можа дзеля „высокай“ палітыкі ягоных кіраўнікоў. Але Гурткі Інстытуту павінны й могуць рабіць гэтакія пастановы. Дамагацца (выносячы адпаведныя рэзолюцыі), каб у Праваслаўнай Сэмінарыі ў Вільні было ўведзена выкладаньне хоць пакуль што паловы лекцыеў пабеларуску, павінны ўсе беларускія ўстановы, зьезды зборкі, а таксама валасныя рады і павятовыя соймікі.

## „Хапай злодзея!“.

(Замест апошняга адказу „Bieł. Krупісу“).

У № 41 „Biełaruskaje Krупісу“ надрукаваны артыкул — „Адказ на „адказ“—„да палемікі з „Роднымі Гонямі“. Артыкул гэны закідае аўтару „Адказу“ (глянь № 5 „Род. Гон.“)—„награмаджэньні пустых слоў, вульгарных прытычак, палаянак, інсінуацыяў, звычайных фальшаваньнеў, комсомольскай дэмогогіі“ і г. д. І вось высыпаўшы на яго — бяз усякага права й падставаў, — усе, пэўне-ж, гэтыя — у паняцьці яе—далікатныя „комлімэнты“, а ня лаянкі, добра ўзгадаваная й сумленная газэта тут-жа заяўляе:—„Але аўтар „адказу“ не спраўвакуе (!) нас на падобныя да яго палемікі выступленьні. Лаяцца дужа добра ўмеюць і ўсялякія звошчыкі, дык ім гэту чэсьць і пакідаем“...

Спыняючы на гэтым запраўды-ж, відаць, немагчымую ў прызваітым тоне полеміку з „Bieł. Kr.“, аўтар адказу аднак-жа — вымагае, каб „В. Kr.“—або працытавала з ягонага артыкулу хаця-б адно-адзінае слова, якое мела-б характар лаянкі; або прызнала, што яна сказала няпраўду. Але, не спадзяючыся ад „сумленнае“ газэты спаўненьня гэтага законнага вымаганьня — аўтар зварочуецца гэтым да ведамага сваёй бесстароннасьцяй Рэдактара „Przeglądu Wileńskaha“ з просьбаю, каб ён—у сваім „Notatniku“— сьцьвярдзіў толькі адно: — ці ёсьць у вартыкуле маім што-колечы такое, што-б крыўдзіла агульна-прынятыя правілы прызваітае полемікі; ці ёсьць там нешта—хаця-б здалеку падобнае да таго, што дазваляе сабе ў спрэчцы кідаць з лёгкім сэрцам, але без усялякіх падставаў, у праціўніка „Bieł. Krупіса“,—ці ёсьць там прынамся хоць адно слова падобнае да тых „далікатных“ выразаў, каторыя складаюць, відаць, неад'емную частку „полемічнага стылю“ гэтае газэты... За спаўненьне просьбы—шчыра падзякую ад імя ўсяе беларускае грамадзкасьці, у каторай, нажаль, навет сама праўда неяк „падзялілася на партыі“...

*М.*

Абмылкі ў друку. Рэдакцыя просе паправіць гэт'кія абмылкі ў друку: на стар. 1 радок 4 зьнізу—„да прыгону“, а мае быць „за прыгону“; на стар. 14 у вершы „Ночы“ ёсьць „ндзеям“, а мае быць „надзеям“; на стар. 28 р. 22 зьн. замест „1894“ мае быць „1794“; на ст. 38 р. 19 зьв. надр. „долькі“ замест „толькі“, на ст. 48 р. 1 зьн. надр. „ju“ замест „jу“.

КУЛЬТУРНІК.

## „Беларуская культура“ і захопленая ёй „Беларуская Крыніца“.

Група палякоў, знайшоўшы для сваіх мэтаў 2—3 беларускіх „літэратурных тэхнікаў“, ці „спэцаў“, што паставілі чарговую „палітычную стаўку“ на „шчырае палянафільства“, выдае, як ведама, у Вільні тыднявік „Беларускі Дзень“.

Маючы да дыспазыцыі, відаць, значныя грошы, тая-ж група, дый пэўне-ж за тыя-ж „дыспазыцыйныя“ грошы, пачала выдаваць і месячнік—„Беларуская Культура“.

Беручы першую кніжку новага месячніка, паслухаем разам з тым, як гэтай „Беларускай Культурай“ захоплюецца—„Беларуская Крыніца“...

„З любасьцяй, з эстэтычным пачуцьцём бяром кніжку ў рукі“..

Так заліваецца яна ўжо згары, так сказаць,—напавер. навет яшчэ, як сама кажа,—н е р а ш ч ы н і ў ш ы к н і ж к і... Вось, што значыць здалёку адчуваная ўзаемная „сваймя душаў“, асабліва салодка пацяшаючая рукі „Беларускае Крыніцы“, відаць,—пасьля таго, як яна так моцна „папарыла“ іх на „Родных Гонях“. Але—слухайце-ж далей. —

„Паважная (!) вокладка, добрая папера, прыгожыя, а некаторыя—поўныя высокага сымвалізму (?!), застаўкі — выклікаюць у нас (у „Беларускай Крыніцы“) сымпатыю для месячніка і цікавасьць—пазнаёміцца з яго зьместам“..

„Гэта-ж—ня „Родныя Гоні!“ выводзіць у канцы артыкулу сваё забіўчае для апошніх прыраўнаньне „Крыніца“..

Разумеем добра ўсю нястрыманую „пачуцьцёвасьць“ гэтае сымпатыі „Беларускай Крыніцы“ да „Беларускай Культуры“, асабліва пасьля „рашчараваньня з „Гонеў“... Не разумеем толькі вось па сутнасьці такой высокай ацэнкі „Крыніцай“ новага польскага часопісу ў беларускай мове.—

Запраўды-ж, — у чым „павага“ гэтае шэрае вокладкі, на якую кінута ў кучу—з яўным гвалтам над усялякай пэрспэктывай—нейкая крывая кніжка, сноп жыта, палова ліры, і — п а л о в а  с о н ц а! — гэта-ж сэкрэт „Беларускай Крыніцы“... Праўда, гэтае сонца „Беларускай Культуры“ нарысавана запраўды-ж „высока — сымвалічна“, — бо-ж яно пасылае свае к о с ы  т о л ь к і  й  в ы л у ч н а  б ы ц ц а м  н а  з а х а д, а ў с х о д н я я  п а л о в а  г э т а г а  с о н ц а, зусім „лысая“, выбачайце, як галава самога паважанага рэдактара п Умястоўскага... Ані воднай коскі на ўсход!!...

„Добрая папера“...—Ну, на гэта—пэўне-ж паны выдаўцы „Беларускай Культуры“ маюць „да дыспазыцыі“ значна большыя грошы, як бедная супалка „Родных Гонеў“.. Толькі вось карыць убогага пышнай вопраткай багатага неяк, можа, і не датвару—„хрысьцянска-дэмакратычнай „Крыніцы“...

„Рашчыняем кніжку і чытаем“, кажа „Крыніца“. — Чытаем і мы за ёй. Толькі вось, у „Крыніцы“ далей „сымпатыя павялічуецца“ усьцяж, а ў нас? .—Ну, мы, ведама-ж, „напавер“ з гары захопляваццa ня маем ніякіх — ані „пачуцьцёвых“, ані іншых падставаў, дык сьпярша прынамся — прыгледзімся бліжэй да зьместу гэтае „літаратурна-грамадзкае часопісі“...

„Літаратура-Грамадзкасьць-Культура“—гэта значыць—ніякае палітыкі!... Бо-ж гэта, як кажуць цяпер усе, — якраз тое, што нам наўперад дый нагвалт патрэбна... Можа-ж якраз гэта і дае „Беларуская Культура?“... Паглядзім.— У першых-жа радкох, каторымі рэдакцыя новай „літаратурна-грамадзкай часопісі“, адчыняючы працу, пачынае сваю „апалітычную праграму“,—„як быкі стаяць літэры“, як кажа Купала:

„Незалежнасьць Беларусі — наша першае і апошняе слова“...

І далей—у сьцягу пэўна ж шчыра—незалежніцкіх стацьцёў у часопісу [1]) высьвятляецца які зьмест укладаецца яго рэдактарамі ў гэты спрытна падхоплены імі ў запраўдных тварцоў і барацьбітоў ідэі незалежнасьці—„модны лёзунг“, на каторы паважаная рэдакцыя і мае, як на „нажыўку“, лавіць сабе сэрцы лёгкаверных.. У гэтых артыкулах—ужо без усялякага „высокага сымвалізму „паважнай вокладкі“— ясна, як у дзень, даводзіцца, што — гэтую незалежнасьць Беларусь можа здабыць сабе толькі й вылучна — „у саюзе з Польшчай“, — атрымаць яе гатовай — з рук польскага грамадзянства... — „Так ставяць пытаньне... „Głos Prawdy“, „Robotnik“, „Kurjer Wileński“, сцьвярджае з трыумфам над малаверными часопіс. „Так ставім пытаньне і мы“, скромна заяўляе яна тут-жа... А каб ня было ўжо больш ніякага сумлеву ды хістаньня ні ў кога, пераконуюча дадае: „інакш і ня можа быць пастаўлена справа!“... Пэўне-ж! — органам казённых палянафілаў, дадамо й мы ад сябе...

---

З гэтага „першага й апошняга слова“ часопісу выцякае ўся „культурна-грамадзкая“, а запраўды — наскрозь палітычная праграма й тактыка месячніка, як гэта ясна відаць з усяго амаль што тэксту, зьмешчанага ў першым яго нумары... Як і „Беларускі Дзень“, так сама і ягоны малодшы, але значна грубшы „братулька“, абодва імкнуцца да аднае яснай і простай мэты: хваліць усё польскае, — „заходняе“, усё тое, што *нібы* мае зрабіць ды даць Беларусі Польшча, а наўперад — ганіць, кампрамітаваць ды шэльмаваць ці

[1]) Бо ж навет—падпісаных Незалежнікам!!

замоўчавацць усё тое, што *ужо* зроблена дый робіцца ўсьцяж — дзеля запраўднай беларускай культуры і дзяржаўнай незалежнасьці Беларусі—на беларускім Усходзе...

Здавалася-б, — цяжкая, ох, якая цяжкая задача!... Але паны з „Беларускай Культуры“ ўзяліся за гэтую задачу — трэба ім гэта прызнаць—вельмі спрытна...

Сцьвярдзіўшы ўсё гэта, мы — на гэтым пакуль што і скончым разгляд палітычных артыкулаў гэтага „апалітычнага“ часопісу. Дадамо толькі, што нават так захоплена сымпатызуючая „Беларускай Культуры” „Белар. Крыніца“, і тая кажа, што часопіс — залішне дый „безпадстаўна выхваляе Польшчу“...

---

У вадзьдзеле прыгожага пісьменства — паэзыя прадстаўлена пераважна маладым песьняром—Бартулём.

Грам. Бартуль мае здольнасьці, мае тэмы, але ягонай паэзыі наўперад не хапае **м у з ы к і**, — не хапае сьпеву вольна спароджаных рытмаў, без чаго — нямашака запраўднай паэзыі! Але наўперад яму трэба яшчэ шмат працаваць над вершам, каторы ў яго залішне часта—проста тэхнічна слабы, а навет—няроўны, няправільны мэтрычна.

Захопленьні „Крыніцы“ ды п Смрэчыньскага ў „Słowie“, што паставілі ўжо Бартуля — „вобак найвялікшых нашых песьняроў“, раўнуючы яго, выбачайце,—да самога Купалы, маюць, нажаль, пакуль што вельмі слабыя падставы, прынамся ў творстве самога маладога паэты. .

Ягоная „Князёўна — значна менш паэтычная, як алегорычная казка, а гэта-ж вялізарная розьніца, як пабачым далей. Яна, прызнаем, добра, літаратурна напісана. Але ніколі ня трэба забывацца дасьціпнай думкі аднаго слаўнага крытыка, каторы сказаў, што — „алегорыя ў паэзыі— чым мудрэй, тым дурней”... Раўнаваць **ш т у ч н а з р о б л е н у ю** „Князёўну, каторая наўперад—вельмі слабая музыкай ды нявытрыманая ня толькі ў рытме, але й у мэтры, із „Сном на кургане“ Купалавым, каторы нарадзіўся ў запраўднай „гразе й буры“ магутнага душэўнага ўздыму, каторы ўвесь наскрозь прасякнуты запраўднымі бурнымі рытмамі гэтае адгучэлае навальніцы-б. рэволюцы рамантычна-творчага сэрца, гэта-ж—довад поўнага нябыцьця ня толькі крытычнага пачуцьця ды мастацкага смаку, але і — музыкальнага вуха.

Мы зусім ня маем жаданьня зьневажаць ці пазбаўляць веры маладога паэту, але ягоная казка робіць уражэньне лялькавага, „**ш т у ч н а г а** тэатру“ — „**б а т л е я к**“, дзе кожнаму „пэрсанажу“ напісана з гары яго роля, дзе — за ўсіх гавора сам схаваўшыся аўтар, а не яны самі... Дзеля

таго—мы з Бартулёвай „Князёўны“ ня можам ад дзеючых там „ляляк“ навучыцца нічога-больш таго, што ведае дый што ўлажыў ім у вусны сам Бартуль. Вось—у гэтым і ёсьць вялікая розьніца — між запраўднай паэзыяй, каторая, як сама прырода, вучыць нас, гавора нам сама за сябе, ня пытаючыся аб тым, ці разумее сам паэта тое, што ён стварыў, і—алегорыяй, „абразы“ якой кажуць толькі аб тым, што выдумаў галавой дый уціснуў у словы здольны, разумны аўтар... Каб пераканацца ў тым, на сколькі няжывыя ўсе гэтыя Бартулёвы „ведзьмы“, „хохлікі“, „нячысьцікі“, а навет і „рыцары“, прыраўнуйце іх — хаця-б з насяленьням „Зачараванага Кута“ Натальлі Арсеньневай, дзе ўсё жыве сваім запраўдным спрадвечным жыцьцём, хухаючы на нас праўдзівай жудой жывучых у глыбіні нашае душы старадаўніх міфаў...

Бартулёвы пераклады, як і арыгінальныя вершы залішне выразна сьведчуць аб заганах яго тэхнікі. Каб ня быць галаслоўнымі, возьмем першы верш ягоны — „Беларусі“. Тут „перабоі мэтра“ — проста балючыя для вуха. — Напрыклад, трэцяя страфа з канца.—

Голас нёсься яго сілай ветраў,
І здарыўся, зьдзейсьніўся цуд:
З цемры адвечнае нетраў
Узьняўся патоптапы люд.

Тут—першыя тры вершы з чатырох, усе — зусім рознага мэтру! — Першы верш складаецца з анапэстаў, другі з амфібрахіяў, трэці з дактыляў... І такіх прыкладаў—маса! Усё гэта робіць вершы Бартулёвы вельмі цяжкімі для чытаньня.—„Нямузыкальнасьць“ яго, каб не сказаць мацней,— проста „кідаецца ў вуха“...

---

Так названы: „Ненадрукаваны ў Менску верш“, каб не казаць нічога аб мастацкім тэхнічным боку яго, найкрасамаўней сьведчыць — аб „палітычнай шчырасьці“ п. п. рэдактароў „Культуры“...—З усяго зьместу дый з усяе будовы вершу—ясна, што ў ім ідзе гутарка аб Варшаве — ня меней вострая, як аб Маскве.—Дык вось спрытныя „палітычныя хірургі „апалітычнага“ часапісу проста выразалі з жывога арганізму незалежніцкага вершу ўсе тыя строфы, якія кажуць аб Польшчы, пакінуўшы толькі вось ад гэтае „апэрацыі“ крывавыя сьляды, якіх ніяк ня можна было зацерці... Гэткім парадкам „увага Рэдакцыі“, прэдпасланая вершу, робіцца проста, выбачайце, — ашуканствам.. Праўда-ж у тым, што „ненадрукаваны ў Менску верш“, аказаўся немагчымым да друку цалком і ў—палянафільскім беларускім часопісу ў Вільні..

---

Ці трэба казаць, што запраўдным—прыборам кніжкі ёсьць вершы М Багдановіча, праўда ўжо друкаваныя ня раз.

З 2 вершаў Язэпа Паляшука — першы, за выняткам пары грашкоў,—проста харошы,—дае жывы абраз пакінутых вясковых могілкаў, дзе Жыцьцё даўно ўжо перамагло Сьмерць. Верш—тонкі, просты, глыбокі—увесь дыхае пушкінскім духам. За тое—другі верш таго-ж аўтара—болі, як слабы.. Рэшта адзьдзелу прыгожага пісьменства, здаецца, усё — пераклады. „Ангэльлі" Славацкага — з польскага — так сама—ня без „палітыкі"... „Марскяя легенда", як відаць з гутарак у ей,—пераклад з расейскае, хаця аб тым „палітычна" не сказана ані слова...

„Суклон сталецьця" Рабіндраната Тагора — перакладзена навет.. „з бэнгальскае мовы!!" Гэтую „бэнгальскую мову" пэўне-ж добра знаюць рэдакцыйныя „браміны" з „Беларускай Індыі", выбачайце: „Культуры", каторыя — усьлед за Тагорам—радзяць беларусам: „Няхай будзе вянком вашым пакора, а свабодаю—свабода душы вашае". . Пэўне-ж—ніякае іншае—грамадзкай, палітычнай, сацыяльнай, наагул рэальнай свабоды Беларусі — для здабыцьця яе поўнай незалежнасьці... у саюзе з Польшчай" — паводле „бэнгальскіх брамінаў" з „Беларускай Культуры"—нятрэба!..

Крытыкі ў кніжцы—зусім няма, калі ня лічыць кароткай заметкі Аглядчыка, дзе толькі і ёсьць цікаўнага, што— пэўна-ж харошыя адрыўкі з апошніх твораў Я. Коласа.

Каб скончыць з палітычным адзьдзелам часопісу, адзначым толькі дзіка — сьмешную прэтэнзыю яго — лічыць сябе „арганічным працягам" Нашай Долі". — Далёка-ж „казённаму бутэрброду" да таго шчырага здаровага мужыцкага хлеба, якім была тая!!

---

Дапаўняе твар часопісу даўгі кампіляцыйны артыкул гр Я. Зянюка—аб вуніі. Артыкул, разглядзеўшы пытаньне аб вуніі з пункту гледжаньня беларускага, канчае аднак-жа пазывам на—„дзяржаўныя інтэрэсы Польшчы"!...

Гэткім парадкам, запраўды-ж неяк і тут выходзе, што— „першае наша слова" — можа і ёсьць „незалежнасьць Беларусі", але вось — „апошняе наша слова", гэта — „дзяржаўныя інтэрэсы Польшчы"...

Цэлая старонка — „рэклямуе" толькі *польскі* „Інстытут дасьледу нацыянальных справаў", ня кажучы аб тым, што існуе, хаця ў беларускай сваей частцы і благенька — слабенькі, (але-ж) альбо—уласны часопіс „блёку меншасьцяў"— „Natio",—пасьвячаны тым-жа справам

# Культурнае жыцьцё краю.

— **Вялейскі павятовы Зьезд Т-ва Беларускае Школы.** На просьбу Вялейскай Акружной Управы дазволіць павятовы Зьезд Т-ва Беларускай Школы Вялейскі Стараста — вядомы Ніташлаўскі — даў адмоўны адказ. Тады Акружная Управа падала жальбу Віленскаму Ваяводзе, каторы прыхінуўся да просьбы Управы. Зьезд быў 14 кастрычніка сёлета для азнаямленьня з працаю Акружное Управы і разгляду ідучых справаў. Забралася на Зьезд 89 сяброў. Выбраны на Старшыню Зьезду гр-н Валынец — даў слова для прывітаньня ад імя Акружное Управы гр-ну Калядзе і ад імя Галоўнае Управы Т-ва грам. Шырме.

Пры разглядзе пытаньняў, што стаялі на парадку дня, выявілася глыбокая нацыянальная сьвядомасьць прысутных, і кожны, хто бачыў такі магутны адраджэнскі ўздым, зразумее, што няма на сьвеце сілы, якая магла-б запыніць ці задушыць яго. Ёсьць часіны ў жыцьці кожнага народу, калі ідэя адраджэньня ёсьць ня толькі ідэя, а цэлая народная філёзофія, народная стыхія. Гэты мамэнт якраз перажывае беларускі народ, і толькі можа найболей яскрава гэта кідаецца ў вочы ў павеце Вялейскім. Што з таго, што беларускі народ чуе сябе страшэнна пакрыўджаным, што з таго, што яму бюракратычная казуістыка заплятае, як павучыньням, сваімі фармальнасьцьмі адраджэнскі шлях, — ён, гэты сярмяжны барацьбіт, моўчкі, але ўпорна йдзе наперад да Сьвету й Праўды. Такая ўпорчывасьць селяніна-Беларуса ў дасягненьні свае мэты — культурнае незалежнасьці сабе і сваім дзяцём — выводзіць з раўнавагі польскіх шавіністых, каторыя ў тым факце, што Беларусы на падставе куртатых языковых уставаў здабылі некалькі беларускіх школаў, а ў Вялейцы утраквістычную школу, бачаць штось страшнае для польскага гаспадарства. Але народ наш, абмінаючы эндэцкае балота, ідзе цьвёрда наперад адраджэнскім шляхам, і на Зьезьдзе Т-ва гэтымі прадстаўнікамі сялянства пасьля дакладаў з месц аднагалосна была прынята наступная рэзалюцыя:

Вялейскі Акружны Зьезд сяброў Т-ва Беларускае Школы, разгледзіўшы ўсе пытаньні аб палажэньні беларускае школы і наагул культурнае працы сярод беларускага грамадзянства выносіць пратэст проці палітыкі Ураду, каторы не праводзе ў жыцьцё языковых законаў, а на аснове гэтага:

1. Дамагаемся на аснове языковай уставы з дня 31.VII 1924 г. і спаўняючага распараджэньня з дня 7.I. 1925 г. адчыненьня беларускіх урадовых школаў з беларускай выкладоваю моваю, дзе большасьць Беларусаў; адчыненьня Гімназыеў Беларускіх, а таксама Беларускай Вучыцельскай Сэмінарыі.

2. Протэстуем проці такога навучаньня ў вадчыненых беларускіх урадовых школах, дзе вучаць беларускай мовы толькі ў першым адзьдзеле.

3. Дамагаемся назначаць у беларускія школы вучыцялёў, каторыя знаюць беларускую мову, а не пазнанчыкаў і галічан, што вучацца самі беларускай мовы ад вучняў школы.

4. Дамагаемся звароту на сваю бацькаўшчыну ў белар. школы беларускіх вучыцялёў, каторыя былі на Кракаўскіх курсах.

5. Дамагаемся, каб у вадчыненых беларускіх школах беларуская мова была ўведзена ўва ўсе адзьделы, а ня толькі ў першы адзьдел.

6. Кожны сябра, а ня толькі Ўправы Гурткоў няхай лічыць сваім абавязкам падаць дэкларацыю на беларускую ўрадовую школу, а, калі яшчэ не жанаты, дык няхай паможа гэта зрабіць свайму бацьку, ці маці, ці брату, а навет свайму суседу.

Кожны сябра павінен ня толькі чытаць газэту, але і падтрымляваць яе сваячасным узносам прэнумараты.

Кожны Гурток павінен мець сваю бібліатэку, а калі нямагчыма аднаму, дык стварыць райённую.

Кожны Гурток павінен мець тэатральную, рэфэратную й спартовую сэкцыі.

Кожны Гурток павінен раз у месяц паставіць хоць адзін спэктакль сваімі сіламі, а дзеля гэтага Акружная Ўправа павінна кіраваць гэтай справай.

Акружная Ўправа павінна мабілізаваць сьвядомых сяброў, якія-б пісалі рэфэраты для рассылкі па Гурткох.

Наладзіць пры кожным Гуртку вячэрнія чытаньні ня толькі для сяброў, але навет і для рэшты сялян, якія, пабачыўшы, што Гурток нешта робіць, нешта даець ім, у канцы канцоў запішуцца ў сябры Таварыства. На гэтых чытаньнях трэба як найбольш чытаць па сельскай гаспадарцы, каапэрацыі, школе і г. д.

Пад такімі радкамі падпішацца кожны чэсны Беларус, бо гэта пагляд усяго беларускага народу.

У канцы Зьезду старшыня Валынец зрабіў рэзюмэ ўсяго казанага і прасіў сяброў ушанаваць сваёй прысутнасьцяй спэктакль-вечарыну, што зладзілі ў чэсьць Зьезду драматычная й харавая сэкцыі Вялейскага гуртка Т-ва Беларускае Школы.

Зьезд скончыўся каля 7-е гадзіны ўвечары, а за гадзіну ўчасьнікі яго ўжо любаваліся мастацкай гульнёй драматычнай сэкцыі ў „Апошнім Спатканьні“. Былі моцныя драматычныя часіны, калі сьляза дрыжэла на воку. Усё роднае, даўно знаёмае, але-ж і цяжкое. Праўдзівыя сялянскія тыпы... Ідэалістычная моладзь вядзе сьмяротную барацьбу з царскім рэжымам за зямлю й волю.. Перапоўненая да краёў заля робіць авацыі артыстам. П‘еса згуляна. Хор у нацыянальных вопратках хараша пяе родныя песьні. Думкі лунаюць далёка па бяздольных прасторах роднае зямелькі і праз маркотную сучаснасьць адлятаюць сьмела ў далёкую сьветлую будучыню, дзе новыя пакаленьні будуюць новае жыцьцё. У гэты маркотны дажджлівы дзень рахмарнай восені вясна зьвініць зялёным шумам, на душы радасна і сэрца шыбчэй б‘ецца ў грудзёх... Хочацца крыкнуць усяму старому й нягоднаму: „Дарогу Маладой Беларусі!“ *К. П.*

## Павятовы Зьезд Т-ва Беларускае Школы Стаўпецкага павету.

Агульны Зьезд сяброў Т-ва Беларускае Школы Стаўпецкага пав. дзеля перавыбараў Акружной Управы быў 9 кастрычніка сёлета ў м. Міры. Старшынёй Зьезду быў абраны грам. Галоўка, сэкрэтаркаю грам. Сташэўская. Прывітаў Зьезд ад імя Акружной Управы грам. Галоўка, як старшыня яе. Грам. Шырма вітаў Зьезд ад Галоўнае Ўправы Т-ва і даў справаздачу яе дзейнасьці.

Пры дакладах з месцаў высьвятлілася, што школьная ўлада ставіць вялікія перашкоды беларускаму насяленьню пры дамаганьні ўрадовай беларускай школы. Школьны інспэктар вельмі тэндэнцыйна, не на карысьць Беларусаў, разглядае школьныя дэкларацыі, дзеля чаго цераз паліцыю зганяе людзёў за некалькі вёрст у воласьць, як гэта было ў м. Міры. Многа нараканьнеў было на дзьвюмоўныя школы, дзе вучыцялі - палякі „выкладаюць“ беларускую мову. Каб абараніць дзяцей ад калецтва, якое нясе ім дзьвюмоўная школа, пастаноўлена дабівацца ператварэньня гэных школаў у чыста беларускія,

а каб мець сваіх кваліфікаваных вучыцялёў аднагалосна пастанавілі прасіць Галоўную Ўправу зрабіць стараньні перад адпаведнымі ўладамі аб адчыненьні беларускае вучыцельскае сэмінарыі. На прапазыцыю прадстаўніка Луцкага гуртка пастаноўлена адчыніць курсы для выраслых там, дзе прыяюць гэтаму мясцовыя варункі.

Пасьля разгляду пытаньнеў, якія стаялі на парадку дня, ад імя Зьезду была паднесена прадстаўніку Галоўнае Ўправы гр. Шырме нацыянальная кашуля, вышываная дзяўчатамі Луцкага гуртка, і прыгожы нацыянальны паясок сатканы па просьбе Люцэвіцкага гуртка старэнькай бабулькай у в. Люцэвічах. Пры гэтым прадстаўнік Луцкага гуртка. гр-н Тананка Андрэй, у сваёй прыгожа пабудаванай, багатай думкамі і шчыра сказанай прамове дзякаваў у васобе гр-на Шырмы Галоўнай Управе Т-ва Бел. Школы за яе працу на карысьць адраджэньня беларускага народу і прасіў і далей ходацца за родную культуру разам з народнымі масамі ў імя лепшай і сьветлай будучыні многапакутнай Бацькаўшчыны. Адказ гр-на Шырмы, што сардэчна дзякаваў Зьезду за такую вялікую пашану да Галоўнае Ўправы, так-жа як і прамова гр-на Тананкі, былі сустрэнуты Зьездам бурай воплескаў. Па скончаньні Зьезду ўсе ўчасьнікі яго доўга, ня гледзячы на позьні час, дзяліліся сваімі ўражаньнямі дня ў тым-жа доме, дзе быў Зьезд,—пакуль паліцыя. баючыся, каб не запаялі чаго беларускага, ня змусіла разыйсьціся дамоў.

Асталося 9 чалавекаў новаабранае Ўправы і Нагляднае Рады, каторыя зрабілі арганізацыйнае паседжаньне. За старшыню Ўправы абраны грам. Ясевіч, за сэкрэтарку грам. Сташэўская; з трох сяброў Нагляднае Рады за старшыню абраны грам. Галоўка.

*Сябра.*

## Культурныя навіны.

**№ 7 „Родных Гонеў“ выйдзе ў другой палове сьнежня.** З тае прычыны, што сёлета ня кожны месяц „Родныя Гоні“ выходзяць, нашым паважаным падпішчыкам Рэдакцыя будзе лічыць плату не ад месяца, але ад лічбы дастаных кніжак „Род Гонеў“, г. зн. за 12 кн. 8 зал., за 6 кн.— 4 зал., за 3 кн. 2 зал. і за 1 кн. — 75 гр.

**У справе ўрадовых беларускіх школаў.** Галоўная Ўправа Т-ва Беларускае Школы ў вапошнія часы дастае наказы (паведамленьні) з провінцыі, што школьныя інспэктары

паведамляюць насяленьне аб адмове адчыніць урадовыя беларускія школы ў тых валасьцях, дзе пры сьпісаньню насяленьня ў 1921 г. запісана Беларусамі меней як 25 проц. У гэтым пытаньні Галоўная Ўправа прыймае наступныя меры: 1) заклікае насяленьне гэтакіх мясцовасьцеў падаваць школьныя дэклярацыі ў большай лічбе, як летась; падаваць жальбы Міністру Асьветы і 3) просіць валасныя рады выносіць пастановы аб тым, што большасьць валасьці ліча сябе Беларусамі, пасылаючы гэтыя пастановы да п. Прэзыдэнта.

**Матура ў Беларускай Гімназыі ў Вільні.** Бацькаўскі Комітэт Віленскай Беларускай Гімназыі зьвярнуўся да Галоўнай Управы Т-ва Беларускае Школы з просьбаю падняць ізноў перад Міністрам Асьветы справу аб прызнаньню Беларускай Гімназыі матуры. У гэтай справе Галоўная Ўправа, паклікаючыся на свой мэморыял аб палажэньні беларускіх гімназыеў, пасланы да Міністра Асьветы яшчэ 27-IX-27 г., ізноў зьвярнулася да Міністра Асьветы з просьбаю здаволіць канечную патрэбу беларускага грамадзянства мець сваю гімназыю з правамі.

**Каля сту вучыцялём-Беларусам адабралі назад дымісыю.** Як ведама, шмат вучыцялёў-Беларусаў вуча ў польскіх школах у Польшчы (Каралеўства, Пазнань, Галіччына Зах.). Сёлета вясной каля сту старшых векам з гэтых вучыцялёў дастала з розных прычынаў дымісыю і асела ў сваіх радзімых кутках у Заходняй Беларусі. Усе яны дасталі поўную эмэрытуру, бо выслужылі патрэбную лічбу год.

Якое-ж было іхняе няпрыемнае зьдзіўленьне, калі ў кастрычніку дасталі ад школьнай улады наказ, што іхняя дымісыя міністэрствам „скасавана", і яны маюць вярнуцца назад у Польшчу ў польскія школы. Цікаўна, што гэтак зроблена з дымісыяй толькі вучыцялёў-Беларусаў (а не Палякоў). Гэныя вучыцялі і беларускае грамадзянства перакананы, што дымісыя ад вучыцялёў адабрана дзеля таго, каб яны, жывучы ў Бацькаўшчыне, не займаліся беларускай працаю.

Адцемім, што ня чуваць, каб каго з вучыцялёў-Беларусаў, працуючых у польскіх школах Заходняе Беларусі, адпусьцілі на дымісыю, хоць не адзін з іх мае 25, 30 і балей год працы ў школе. Відаць, тут тая-ж прычына, што і з адабраньням дымісыі.

**10-ыя ўгодкі Беларускае Гімназыі** Першая беларуская гімназыя была закладзена ў Слуцку 4(17) кастрычніка 1917 г. грам. Р. Астроўскім. Дык сёлета скончылася 10 год ад закладзінаў яе. Беларускае грамадзянства ў Вільні 1-га лістападу сёл. ўрачыста адсьвяткавала гэтыя дзесятыя ўгодкі беларускай гімназыі. Сьвяткаваньне было арганізавана Га-

лоўнай Упраўаю Т-ва Беларускае Школы і было ў хораша прыбранай залі Беларускае Гімназыі ў Вільні. Праграма сьвяткаваньня складалася з рэфэрату грам. А. Трэпкі аб значэньню й гісторыі беларускіх гімназыеў, з прамоваў ды з вельмі багатага концэртнага адзьдзелу. Публікі было паўнюсенька.

У № 7 „Род. Гонеў“ дамо вялікую стацьцю, пасьвячаную 10-ым угодкам беларускіх гімназыеў.

## Кнігапіс.

„Заранка“, беларускі часапіс для дзяцей, кн. 7-ая.

Першы крок. Зборнік вершаў гуртка маладых беларускіх паэтаў у Латвіі. Рыга. 1926. Стар. 88 у 16°.

Ал. Галынец: Вялікае апрашчэньне ці вялікае ўдасканаленьне? Рыга. 1926. Стар. 47 у 16°.

ДАСТАЛІ ад грам. грам. С. Л. Маеўскага 10 зал., Антона Катовіча 6 зал.

Бібліётэкі ім. Якуба Коласа ў Чамярох, Гуртка Т ва Беларускае Школы ў м. Казлоўшчыне, Я. Кузьміцкага, Грыгора Шчэцькі, Сымона Каўша—па 4 зал.

Міколы Пасюты, Андрэя Канановіча (бібл.-чыт. ў Яруцічах), Пётры Калінкі, Марты Цьвердахлебавай, Я. Смыка, М. Якімчыка, Мікалая Крэсла, Івана Осташэня—па 2 зал.

Віктара Ярмака 1 зал. 50 гр., Ст. Грыцука 75 гр. Юркі Лявоннага 30 кап. Кірылы Бакаца 2 зал. 50 гр.

## Зьмест.



Выдавец-Рэдактар: М. Станкевіч.

Вільня — Друкарня „Рах“, Сьвята-Ігнатаўская вул. 5.